Нашыя перамагаюць →3



Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

Лёс беларуса →8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 27 (2929) Год LVII | Беласток, 1 ліпеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сцяг гарадоцкай гімназіі

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

**22 чэрвеня Гімназія ў Гарадку атрымала імя Роду Хадкевічаў і сцяг. Урачыстасць удастоілі шматлікія знакамітасці, галоўным чынам беластоцкія. Прысутнічалі, м.інш. праваслаўны архіепіскап беластоцка-гданьскі Іакаў ды каталіцкі беластоцкі арцыбіскуп Станіслаў Шымэцкі, віцэмаршалак Падляшскага ваяводства Мечыслаў Башко, беластоцкі павятовы староста Веслаў Пуш, прадстаўнікі асветных устаноў, дэлегацыі суседніх гмін ды мясцовы грамадскі актыў. Бляску ўрачыстасці дадаў школьны аркестр з Васількава.**



Архіепіскап Іакаў і арцыбіскуп Станіслаў Шымэцкі асвяцілі сцяг

Архіепіскап Іакаў сказаў, м.інш.: „Першай задачай, якую атрымаў чалавек у раю, было прысвойванне імён рэчам і жывёлам. Гэта была важная задача, бо назва адлюстроўвае істоту аб'екта. Сёння мы з'яўляемся сведкамі ўрачыстасці, у ходзе якой імя атрымала школа. Выбар гэтага імя важны, бо асоба, якой імя прысвойваем школе, павінна быць узорам паводзін не толькі ў школе, але і ў далейшым жыцці. Вось Аляксандр Хадкевіч быў не толькі заснавальнікам Гарадка, але таксама арганізатарам культурнага жыцця. Спадзяюся, што род Хадкевічаў будзе ўзорам так настаўнікам, як і вучням школы". Уладыка павіншаваў трапнага выбару патрона гімназіі і пажадаў поспехаў настаўнікам і вучням.

Арцыбіскуп Шымэцкі выказаў спадзяванне, што моладзь так будзе ладзіць сваё жыццё, каб давала яно сведчанне глыбокай веры, не толькі веры ў чалавека, але і веры ў Бога.

Ураджэнец Гарадоцкай зямлі, прафесар варшаўскай Акадэміі мастацтваў Лявон Тарасэвіч, ён жа запраектаваў сцяг, — адзіны, які прамовіў на роднай мове, — сказаў, м.інш.: „Дарагія вучні. Мусіце памятаць, што найважнейшай у цывілізацыі ёсць памяць. Без памяці няма народу, няма ведаў. Калі будзеце помніць пра свае вытокі, пра Беласточчыну, яна будзе развівацца. Я вельмі рады, што гімназія атрымлівае імя Роду Хадкевічаў, аднаго з найбольш выдатных родаў у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага".



Дырэктар Анна Грыцук перадае сцяг сцяганосцам

Вядомая журналістка і грамадская дзяячка Анна Радзюкевіч звярнула ўвагу на дзве постаці роду Хадкевічаў: Аляксандра і Рыгора, якія заклалі цэнтры асветніцтва на мясцовай зямлі і забяспечылі іх новай адукацыйнай тэхнікай.

Гэта крыху агульна пра індывідуальныя акцэнты мерапрыемства. Аднак прысваенне імені гэта рытуал калектыўнага характару; біблейскі Адам рабіў гэта сам, бо ж у той час нікога іншага роўнага ці раўнейшага яму не было. Таму сабраным была зачытана пастанова самаўрадавых улад пра фармальныя асновы ўрачыстасці, абодва іерархі адслужылі кароткія малебны і асвяцілі сцяг, дырэктар гімназіі Анна Грыцук коратка расказала пра школу і яе поспехі, важнейшыя госці, у іх ліку галоўныя спонсары, змацавалі сцяг сімвалічнымі цвікамі, пасля гэтага прадстаўнікі бацькоў перадалі сцяг дырэктар гімназіі Анне Грыцук, якая далей перадала яго вучнямсцяганосцам. Прадстаўнікі вучняў далі ўрачыстую прысягу на новы школьны сцяг. Пасля важнейшыя госці выказалі цёплыя прамовы і віншаванні.

Пасля прысутныя перайшлі ў школьны хол, дзе пазнаёміліся з мастацкімі працамі вучняў, а затым у г.зв. малую гімнастычную залу, дзе адбылася мастацкая частка ў выкананні школьнікаў. Паказалі яны інсцэнізацыю галоўных падзей датычных гарадоцкай даўніны, што адбываліся з удзелам манархаў Рэчы Паспалітай і роду Хадкевічаў. Частка спектакля была на каронным мове, а частка на вялікакняскай. Завяршыла выступленні Габрыеля Налівайка, якая высокакаратна выканала славуты гіт з рэпертуару Анны Герман п.з. „Tańcząсе Eurydyki".




Выступае прафесар Лявон Тарасэвіч

Госці пакідалі свае пажаданні ў адмысловай кнізе. Паколькі іх было шмат і склалі яны вялікую чаргу, таму я рашыў свае пажаданні новаахрышчанай школе выказаць тут. А жадаю настаўнікам і вучням, каб школа выпускала такіх навучэнцаў, якія б у сучасных ці будучых нашых дзяржаўных ці звышдзяржаўных структурах пакінулі па сабе такі ўспамін, які ў Гарадку і ў Вялікім Гаспадарстве Літоўскім пакінуў род Хадкевічаў.

9770546196000

# Без самападману



Чалавеку ўласціва самападманвацца. І выгоды нібыта ніякай ад гэтага няма, але як нам хочацца верыць у тое, што ёсць так, а не інакш, што будзе лепш, а не горш. Хочацца верыць, што дзяржава стане на шлях дэмакратызацыі, а тыя, ад каго залежыць лёс многіх людзей, выявяць міласэрнасць, схамянуцца, возьмуцца за розум, прыслухаюцца да іншых. Але так не бывае, спадарства! І мы добра ведаем гэта з нашай нядаўняй гісторыі, у якой усё паўтараецца. І не двойчы, як няўдала выславіўся нехта, а мноства разоў. І, на жаль, не ў выглядзе фарса (яшчэ адно глупства!), а зноў у выглядзе бяды і трагедыі.

У Гародні чарговы раз арыштавалі публіцыста і грамадскага дзеяча Андрэя Пачобута. Прыблізна як у той навязлівай рэкламе. „А вы яшчэ нешта пішаце і друкуеце?! — Тады мы ідзем да вас!". Прыходзяць, рыюцца ў вашых рэчах, забіраюць камп'ютары, арыштоўваюць. На кожнага іншадумца знойдзецца свой артыкул. Напісаў нешта крытычнае пра кіраўніка дзяржавы ды яшчэ з малой літары яго пасаду — вось вам і абраза прэзідэнта. Дапамагаў несправядліва пацярпелым кансультацыямі, прывёз грошы для іх з-за мяжы — гэта ўжо непапраўныя страты дзяржаве ў асабліва буйным памеры. Ухіляешся ад прызыву ў войска — здрада радзіме. Вывесіў гістарычны і нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг — асабліва злоснае хуліганства. Адмоўна выказаўся пра парадкі ў краіне — дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь. Не хочаш праходзіць зневажальную дактыласкапію і здаваць адбіткі пальцаў — непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Не данёс „органам" пра тое, што твой знаёмы нібыта майструе выбухоўку — расстрэл. Надумаўся правесці пікет — парушэнне грамадскага парадку. Назваў Суворава акупантам — распальванне міжнацыянальнай варожасці. Захацеў зрабіць фота ці відэарэпартаж — экстрэмізм. З апошнім так: хто да нас з камерай прыйдзе — той у камеру і сядзе. Журналісты ў нас на асаблівым уліку, публіцысты — асабліва небяспечныя элементы.

А неўзабаве і новы закон пра „Камітэт дзяржаўнай бяспекі" ўвойдзе ў сілу. Паводле яго супрацоўнікі спецслужбаў могуць у кожную хвіліну выламаць дзверы ў вашу кватэру ці хату, збіваць вас, а то і страляць. Зразумела, што выключна і толькі ў мэтах „грамадскай" і сваёй асабістай бяспекі — „в соответствии с законодательством". Калі агрэсіўнай і рэпрэсіўнай сілы будзе бракаваць, можна крымінальнікаў з турмаў выпусціць — прыём не новы, а правераны. Успомнім з гісторыі хоць бы 1953 год. А тут якраз амністыя рыхтуецца. Можна не хвалявацца — вязняў сумлення, асуджаных па палітычных справах, яна не закране. У іх жа паводле бальшавіцкай ідэалогіі адзін крок наперад — два назад: аднаго выпусцілі — дваіх пасадзілі. Арыфметыка простая і нязменная.

Пасля паразы паўстанняў 1794 і 1863 гадоў на землі Беларусі хлынула хваля каланіяльнай расійскай адміністрацыі, прыблізна тое ж паўтарылася і ў дваццатым стагоддзі. А зараз глянеш на спіс кіраўнікоў гарадскіх і раённых адміністрацый, суддзяў, кіраўніцтва міліцыі — спрэс нашы мясцовыя прозвішчы — беларускія, польскія, габрэйскія. Ні з Самары, ні з Волагды і ні з Масквы прысланыя легіёны чыноўнікаў, работнікаў наменклатуры і сілавых структур твораць зло, нішчаць зараз усё беларускае, па-добраму традыцыйнае. А робяць гэта выгадаваныя, ускормленыя, размножаныя на нашай, тутэйшай глебе „клоны". І дзевяць мільёнаў згодных жыць з перакручанай свядомасцю, „работать" у гэтай суцэльнай хлусні, па-рабску выконваць ганебныя і злачынныя загады. А што ж рабіць з тым мільёнам нязгодных з такой палітыкай, няскораных, абураных беззаконнем і татальнай несправядлівасцю. Для іх ужо падрыхтаваныя новыя „катыньскія" і „курапацкія" спісы, не сумнявайцеся. Як бы нам не хацелася ў гэта верыць, але да савецкага сталінізму ці да хусейнаўскага Ірака, да асадаўскай Сірыі, ці да паўночнакарэйскай дыктатуры мы сёння намнога бліжэй, чым да цывілізаваных краін Еўропы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# З гісторыі будынкаў у Бялках



Да Першай сусветнай вайны ў вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны на загуменні была пабудавана прыгожая вясковая школа. Калі людзі выязджалі ў бежанства, адступаючыя царскія салдаты спалілі вёску і школу. Пасля вяртання сяляне сталі адбудоўваць свае будынкі, але школы ўжо не адбудавалі. Пры санацыі і за першых саветаў школа змяшчалася ў прыватным доме Іосіфа Лук'янюка. У час нямецкай акупацыі школы ў вёсцы не было. Школьныя парты і табліцу гаспадар вынес пад дашок каля хлява і там яны прастаялі ўсю акупацыю.

Пасля вызвалення сталі да нас прыязджаць савецкія агенты і намаўляць людзей выязджаць у Савецкі Саюз. Абяцалі лёгкі хлеб. З нашай вёскі выехала 19 сем'яў. Тады ў доме Фларыяна Сахарчука, які зімой 1944/1945 г. выехаў у СССР, у 1945/1946 школьным годзе была адкрыта чатырохкласная школа. Дзеткі вучыліся на змены: III-IV класы зранку, а I-II — на другую змену. Калі дзяцей паменела, школу закрылі, а вучняў перавялі ў аддаленую на 4 кіламетры Трасцянку. Зімой бацькі вазілі дзяцей фурманкай, а восенню і вясной дзеці ездзілі роварамі. Жыхары вёскі паставілі з дошак пункт прыёму малака і абабілі яго ўсярэдзіне цвёрдай плітой. Пазней Гайнаўскі малочны кааператыў пабудаваў мураваны зліўны пункт, а ў драўляны змясціла сваё абсталяванне добраахвотная пажарная каманда, якая актыўна тады дзейнічала.

Школьны будынак перададзены быў вёсцы на святліцу, у якой адбываліся сходы і танцавальныя вечарыны. Калі тадышняму начальніку гміны будынак нашай старой малачарні спатрэбіўся на гаспадарчае памяшканне пры святліцы ў Трасцянцы, загадаў ён бялкоўскім пажарнікам перанесці пажарныя прылады ў будынак былой школы. І зноў пажарнікі пачалі са сваіх дошак класці падлогу ў школьнай каморы, каб было дзе трымаць абсталяванне.

Гайнаўскі малочны кааператыў закрыў зліўную малака ў Бялках, тлумачачы гэта малой колькасцю пастаўляемага малака (менш чым тысячу літраў удзень). Пры цяперашняй дэмакратыі настала мода прадаваць усё камунічнае за сімвалічную залатоўку. Начальнік гміны прадаў школьны будынак жыхару Беластока, а пажарнікам загадаў прылады перанесці ў будынак былой злеўні, які гміна былам бы купіла з прызначэннем на вясковую святліцу. У першым памяшканні, дзе прымалі малако, пажарнікі зрабілі з дошак падлогу і перанеслі туды абсталяванне. З часам войт Нарваўскай гміны высветліў, што будынка былой малачарні ніхто не купіў і тады заплаціў Гайнаўскаму кааператыву 1000 зл., а будынак перадаў солтысу вёскі. Войт перакрыў будынак бляхай, купіў бляшаны гараж і паставіў яго каля былой малачарні. Пажарнікі парабілі паліцы і перанеслі свае прылады, між іншым дзве матапомпы М-800 і плаваючую помпу. Унутры будынка пачалі рабіць рамонт. Там дзе знаходзілася пажарнае абсталяванне залілі бетонную падлогу, памянялі электраправодку і адрамантавалі складское памяшканне. І на гэтым справа спынілася. У тым часе адбыліся змены на пасадзе войта. Настаў другі войт, але дакончыць рамонт няма каму. Бляшаныя дзверы выгнуліся так, што праз шчыліну свабодна ходзяць мышы і пацукі, не трымаецца таксама цяпло ад старадаўняй невялічкай печкі. Салэцкая рада павінна пахадайнічаць перад войтам аб замене дзвярэй на новыя. Неабходна купіць сталы і крэслы, або, каб было танней, самім зрабіць сталы і лавы. Рамонт трэба давесці да канца, бо шкада каб такі будынак стаяў і нішчэў. Павінна быць прызначана асоба адказная за парадак. У святліцы маглі б гуляць дзеці, што прыязджаюць наведаць дзядоў. У адпаведна абсталяванай святліцы можна было б ладзіць пахавальныя абеды, бо цяпер вясковыя хаты завалены мэбляй ад гарадскіх дзяцей. Падумайце, вясковая рада на чале з солтысам, і пастарайцеся давесці да парадку згаданы будынак. Няхай і ў Бялках будзе прыгожая святліца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

**Вачыма еўрапейца**

# Дэпутацкая фільмавая ўява



Час ад часу на сеймавых сайтах праглядаю актыўнасць падляшскіх парламентарыяў. Асабліва цікавяць мяне дэпутацкія запыты і інтэрпеляцыі. Апошнім часам трапіў я на дзівосную інтэрпеляцыю пасла ад ПіС Дар'юша Пянткоўскага. Адрасаваная яна міністру культуры і нацыянальнай спадчыны і датычыць — як гучыць яе назва — „фільмаў аб польскіх нацыянальных героях". Зрэшты, на гэтую тэму згаданы пасол арганізаваў у Беластоку прэс-канферэнцыю (на якую „Ніва" не атрымала запрашэння). Інтэрпеляцыя пачынаецца са сцвярджэння: „Веданне польскай гісторыі вельмі слабое па-за межамі нашай краіны. Сярод найбліжэйшых суседзяў — Расіі і Нямеччыны — можа гэта быць вынікам звычайнай неахвоты паказваць бясслаўныя і жудасныя падзеі з мінулага. Таму неабходна нам паказваць гістарычную праўду. Таксама гістарычныя веды, на жаль, не з'яўляюцца ў нас даволі шырокімі. Часткова гэта вынік шматгадовай негатыўнай індактрынацыі і фальшавання гісторыі ў часы ПНР і надта кароткага перыяду дэмакратыі, калі ў свядомасці грамадзян не ўдалося яшчэ запоўніць гэты пралом, паказваючы сапраўдную гісторыю, навучаючы яе, папулярызуючы ў розных формах, на прыклад, у выглядзе фільмаў — як дакументальных, так і мастацкіх". Далей можна прачытаць: „Сустракаюся з меркаваннем, і сам пад ім падпісваюся, што нашая краіна ўвесь час слаба прапагандуе сваю гісторыю, увесь час надта мала ганарыцца ёю, і хаця робіць гэта ў форме ўрачыстых гадавін і святкаванняў, то надта мала ёсць трывалых форм у выглядзе сайтаў на гістарычныя тэмы, навуковых апрацовак, белетрыстычных кніг і, перш за ўсё, фільмаў — незвычайна важнага сёння інструмента. Не стае нам як мастацкіх кінастужак, так і дакументальных, а таксама іх спалучэння: белетрызаваных дакументаў. Такая папулярызатарская палітыка павінна весціся планава і праграмна. Павінна яна таксама ўпісвацца ў гадавіны і бягучыя здарэнні, якія адносяцца да гістарычных гадавін". Дэпутат Сейма, а раней настаўнік, заклікае, каб зняць мастацкі фільм пра легендарнага кур'ера польскай падпольнай дзяржавы Яна Карскага і забітага камуністычнай уладай ротмістра АК Вітальда Пілецкага. У гэтым кантэксце сцвердзіў: „Польшча можа сабе дазволіць, каб падтрымліваць вытворчасць поўнаметражных, высокабюджэтных фільмаў, нават з удзелам кіназорак, каб менавіта такімі кінакарцінамі зацікавіць заходняга гледача польскай гісторыяй, асабліва датычнай самаахвярнасці палякаў у час Другой сусветнай вайны". Раней адзначыў: „Недастаткова фільмаў з мінулага, хаця верных гістарычнай праўдзе, але зробленых у састарэлай канвенцыі, непрывабнай для гледача, фільмаў якія не распараджаліся такімі матэрыяламі, якія дасупныя сёння".

Пасол Пянткоўскі падаў таксама петыцыю „датычную неабходнасці стварэння манументальнай кінастужкі, якая прапагандавала б польскіх нацыянальных герояў", а пад якой мог бы падпісацца кожны. Накіравана яна Польскаму інстытуту кінамастацтва (ПІК), паколькі гэтая ўстанова — як нагадвае дэпутат — выконвае задачы, звязаныя з фінансаваннем, вытворчасцю і размеркаваннем ды фільмавай адукацыяй.

Разумею высакародныя ідэі пасла Пянткоўскага, але цяжка мне сабе ўявіць, каб у III Рэчы Паспалітай хтокалечы мог бы заставіць творцаў да рэалізацыі якога-небудзь твора, асабліва на палітычны заказ, бо не што іншае, як палітычны заказ прапануе ён міністру культуры і дырэктарцы ПІК, нават калі гэты заказ — у кантэксце гістарычных увекавечанняў — знаходзіцца па-над падзеламі. Калі спадар пасол фактычна адчувае недахопы ў папулярызацыі нацыянальных герояў, павінен паразмаўляць непасрэдна з творцамі і менавіта іх заахвоціць. Дарэчы, а я чакаю мастацкага або белетрызаванага фільма, напрыклад, аб „Бурым". Таксама высокабюджэтнага, з кіназоркамі, але каб перш за ўсё быў ён сумленны і аб'ектыўны.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Нашыя перамагаюць!

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы 12 чэрвеня адбылося падвядзенне вынікаў удзелу вучняў гэтай школы ў прадметных алімпіядах і конкурсах. На ўрачыстае мерапрыемства запрошаны былі бацькі пераможцаў і прадстаўнікі Павятовага старасства ў Гайнаўцы, якое вядзе школу. Распачалося яно і закончылася мастацкай часткай, у час якой вучні дэкламавалі вершы, а „Знічка" запрэзентавалася ў новым складзе, з мужчынскімі галасамі і з новым рэпертуарам.**

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім не ладзяць агульнага мерапрыемства пераможцам алімпіяд. Там пасля вяртання вучняў з цэнтральных элімінацый паасобных алімпіяд адбываюцца сустрэчы белліцэістаў з дырэктарам школы і настаўнікамі, у час якіх лаўрэаты і фіналісты слухаюць пахвальныя словы ад сваіх педагогаў.

Пра поспехі белліцэістаў і белгімназітсаў можна прачытаць таксама на афіцыйных сайтах гэтых адукацыйных устаноў. Вынікі, якіх вучні дабіваюцца на алімпіядах і конкурсах, маюць уздзеянне на рэйтынгі школ, у якіх Бельскі і Гайнаўскі белліцэі займалі адносна высокія месцы ў Падляшскім, а раней у Беластоцкім ваяводствах. Хаця апошнім часам большае ўздзеянне на рэйтынгі маюць ужо вынікі матуральных экзаменаў у паасобных школах, то найчасцей пераможцы ў цэнтральных элімінацыях алімпіяд атрымліваюць максімальную колькасць балаў па матуральных экзаменах, па сваіх прадметах і гэтым самым павышаюць школьную сярэднюю.

— Ужо трэці раз адбываецца ўрачыстасць з нагоды падвядзення вынікаў удзелу нашых вучняў у прадметных конкурсах і алімпіядах, у час якой спатыкаюцца нашыя фіналісты і лаўрэаты. Мы вельмі вам удзячны за так вялікія поспехі, якіх вы дабіліся, — гаварыў у час адкрыцця мерапрыемства дырэктар школы Яўген Сачко і дзякаваў бацькам пераможцаў за адданне вучняў пад апеку гайнаўскіх белгімназіі і белліцэя, за стварэнне дома добрай атмасферы для адукацыі і за дапамогу вучням у час інтэнсіўнай вучобы.

Апошнім часам рэзка скарачаецца колькасць гімназістаў і вучняў звышгімназічных школ у Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, а нават у Беластоку. Высокі ўзровень навучання ў гайнаўскіх і бельскіх белгімназіях і белліцэях асабліва патрэбны цяпер, каб заахвоціць як найбольш маладых людзей да вучобы ў школах, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Сярод большай колькасці здольных вучняў лягчэй знайсці асоб, якія будуць цікавіцца паасобнымі прадметамі, прымаць удзел у конкурсах і алімпіядах і пасля інтэнсіўнай вучобы змогуць перамагчы ў іх. Дырэктар Яўген Сачко павіншаваў усіх лаўрэатаў і фіналістаў з перамогай і ўручыў ім дыпломы і невялікія падарункі. Дыпломы і падарункі атрымалі таксама настаўнікі, якія рыхтавалі вучняў да конкурсаў і алімпіяд. Узнагароду гайнаўскага старасты, якую ўручыў начальнік аддзела грамадскіх спраў і адукацыі Павятовага старасства Уладзімір Петручук, атрымала настаўніца біялогіі Анна Васілюк (яе трох белгімназітсаў сталі лаўрэатамі біялагічнага конкурсу), а ўзнагароду дырэктара школы атрымала Сняжына Пліс (яе трох белгімназітсаў сталі лаўрэатамі, а адзін вучань фіналістам конкурсаў па англійскай і нямецкай мовах). Віцэ-дырэктар гайнаўскай школы Ніна Лукасік прадставіла рэзультаты ўдзелу гімназістаў і ліцэістаў у конкурсах і алімпіядах у лічбах і з дапамогай здымкаў расказала пра конкурсныя змаганні. Звярнула яна перш за ўсё ўвагу на вялікую ангажаванасць вучняў у час падрыхтоўкі да конкурсаў і алімпіяд і на вялікую працу настаўнікаў.



Гайнаўскія белліцэісты — лаўрэаты і фіналісты алімпіяд — са сваімі прадметнымі настаўнікамі

— Мы ў школе арганізавалі індывідуальны ход навучання. Карысталіся ім вучні, якія рыхтаваліся да прадметных алімпіяд і конкурсаў. Былі яны звольнены з урокаў, маглі ў іншым часе пісаць кантрольныя працы і пазней адказваць па прапушчаным матэрыяле, каб мець больш часу на падрыхтоўку да алімпіяд і конкурсаў, — удакладніла віцэ-дырэктар Ніна Лукасік.

— Нашы настаўнікі, вучні якіх перамагаюць у алімпіядах і прадметных конкурсах, атрымліваюць грашовыя ўзнагароды і дадатак да зарплаты. Але настаўнікі ацэньваюцца таксама па іншых крытэрыях і за працу агулам атрымліваюць таксама ўзнагароды, — сказаў дырэктар Яўген Сачко.

— Мы любім беларускую мову, але трэба было павучыцца, рыхтуючыся да прадметнага конкурсу па беларускай мове, — сказалі лаўрэаткі Іаанна Целушэцкая і Паўліна Аўласюк.

Пётр Аўксянцюк дадаў да вышэйсказанага дзяўчатамі, што яму цікава чытаць па-беларуску і гэта мела таксама станоўчае ўздзеянне на ўдзел у конкурсе па беларускай мове. Паўліна Аўласюк стала яшчэ лаўрэатам біялагічнага конкурсу. Яна цікавіцца біялогіяй і ў будучыні хацела б паступіць у медыцынскі інстытут. Яе сяброўкі Аляксандра Кірылюк і Вераніка Кацэнцкая, пераможцы некалькіх конкурсаў, таксама хацелі б вучыцца на медыцынскіх аддзяленнях.

— Трэба было паўтарыць многа матэрыялу, каб акуратна падрыхтавацца да прадметных конкурсаў. Я паставіла перад сабой мэту перамагчы ў конкурсах, да якіх прыступіла і гэта мне ўдалося. Але вельмі важнымі былі вопыт і дапамога настаўнікаў, — гаварыла Аляксандра Кірылюк, лаўрэатка біялагічнага і хімічнага конкурсаў і фіналістка конкурсу па англійскай мове. — Я маю намер працягваць адукацыю ў адным з ліцэяў у Варшаве і хачу там змагацца за званне лаўрэата алімпіяд па біялогіі і хіміі. Хацела б таксама пазмагацца за званне лаўрэата алімпіяды па расійскай мове. Мой брат вучыцца ў вышэйшай установе ў Варшаве і гэта таксама паўплывала на маё рашэнне працягваць адукацыю ў сталіцы, разам з братам.

Вераніка Кацэнцкая, лаўрэатка конкурсаў па біялогіі і англійскай мове ды Давід Анджаеўскі, лаўрэат матэматычнага конкурсу, у размове пацвердзілі, што мусілі многа вучыцца, каб дабіцца перамогі.

— Я перш за ўсё хацела спраўдзіць свае веды і паглыбіць умеласці, — гаварыла Вераніка Кацэнцкая.

Юліта Ваўрашук стала фіналісткай матэматычнага конкурсу, Пётр Грыка і Соня Мосей сталі лаўрэатамі конкурсу па нямецкай мове, а Аляксандра Бачынская — фіналісткай мастацкага конкурсу. У Гайнаўскім белліцэі 4 асобы сталі лаўрэатамі алімпіяды па беларускай мове, 7 вучняў — фіналістамі гэтай алімпіяды, а па адной асобе дабіліся звання фіналіста алімпіяд па расійскай мове, рэлігійных і экалагічных ведах.

— Прымаючы ўдзел у алімпіядзе, была нагода паглыбіць веды па беларускай мове і здабыць вопыт. Я буду звольнена з матуральнага экзамену па беларускай мове і можа пакарыстаюся прывілеямі, якія гарантуе мне званне лаўрэата алімпіяды беларускай мовы, бо хачу паступаць на гуманітарнае аддзяленне ў Варшаве, — сказала Малгажата Цэтра з Гайнаўскага белліцэя.



Лаўрэаты і фіналісты Гайнаўскай белгімназіі з настаўнікамі, якія дапамагалі ім рыхтавацца да прадметных конкурсаў

Якраз на Варшаўскім універсітэце ёсць найбольш спецыяльнасцей, у тым ліку вельмі прэстыжных, на якія лаўрэаты беларускай алімпіяды могуць паступаць без конкурснага адбору, а на некаторыя спецыяльнасці нават фіналісты, такія як сяброўка Малгажаты, Іаанна Леанеўская. Радавалася яна і таму, што не будзе здаваць матуральнага экзамену па беларускай мове.

— Я — беларуска і вучоба беларускай мове гэта вывучанне роднай мовы. Апрача фармальных прывілееў ёсць таксама задавальненне ад удзелу ў алімпіядзе па роднай мове. Я рыхтавалася да алімпіяды на аснове матэрыялу, які быў у праграме навучання. Люблю таксама сучасную паэзію, напрыклад, вершы Анатоля Сыса, якія ахвотна чытаю, — заявіла лаўрэатка другога месца алімпіяды беларускай мовы Міхаліна Герасімюк.

Малгажата Чыжэўская стала фіналісткай алімпіяды экалагічных ведаў, да якой прыступіла ў Польшчы ажно каля 33 тысячы вучняў. Была яна лаўрэаткай і фіналісткай экалагічнай алімпіяды. Давід Якубоўскі стаў лаўрэатам алімпіяды беларускай мовы і фіналістам алімпіяд расійскай мовы і праваслаўных рэлігійных ведаў.

— Я люблю вучыцца на беларускай і расійскай мовах і таму рашыўся прымаць удзел у гэтых алімпіядах. Хаджу на багаслужбы ў царкве і чытаю там тэксты на царкоўнаславянскай мове і таму рашыўся прымаць удзел у праваслаўнай алімпіядзе. Я думаю, што алімпіяда праваслаўных рэлігійных ведаў (2 разы стаў яе фіналістам) была для мяне самай цяжкай, — гаварыў задаволены белліцэіст Давід Якубоўскі, які таксама здабыў першае месца ў турніры чытання тэкстаў на царкоўнаславянскай мове.

Апрача вышэйзгаданых Юстына Раманюк стала лаўрэаткай алімпіяды беларускай мовы, а яе фіналісткамі — Магдалена Панасюк, Барбара Хіліманюк, Юстына Іванюк, Барбара Нядзельская, Малгажата Іванюк і Анна Хвашчэўская.

— Сустрэча прайшла ў мілай атмасферы. Я радавалася, што магла прыняць у ёй удзел і адчувала сябе ацэненай належным чынам. Думаю, што такога роду сустрэчы заахвочваюць вучняў да яшчэ больш інтэнсіўнай працы і выклікаюць большае зацікаўленне вучобай, — лічыць белгімназістка Вераніка Кацэнцкая.

Пасля афіцыйнай урачыстасці вучні і настаўнікі сфатаграфаваліся і разам з бацькамі пайшлі ў школьную сталовую на пачастунак.

У Бельскім белліцэі лаўрэтам III месца ў маштабе Польшчы ў алімпіядзе экалагічных ведаў стаў Міхал Зайкоўскі, а Аляксандра Гаўрылюк здабыла званне фіналіста гэтай алімпіяды. Лаўрэатам алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў стаў Карыён Шэшка, звання лаўрэаткі алімпіяды беларускай мовы дабілася Віялета Маліноўская, а фіналісткамі сталі Аляксандра Семянюк, Анна Андрусевіч, Беата Шкода, Эвеліна Дзікоўская, Кацярына Брэнька і Аксана Леанюк. Фіналістамі геаграфічнай алімпіяды сталі Аркадзь Божка і Дам'ян Козлюк, біялагічнай алімпіяды — Данеля Філіманюк, расійскай мовы — Івона Баршчэўская і Альжбета Коршак. Паўліна Мельнічук дайшла да цэнтральнага этапу агульнапольскага турніру ведаў аб пажарнай ахове, а Адрыянна Дэмбоўская стала лаўрэаткай агульнапольскага конкурсу „Малады чалавек XXI ст.".

— Мы ў нашай школе стараемся стварыць адпаведныя ўмовы, каб вучні хацелі прымаць удзел у як найбольшай колькасці прадметных алімпіяд і конкурсаў. Ліцэісты ведаюць, што перамагаючы ў алімпіядах здабываюць індэксы ў вышэйшыя ўстановы. Перамог на цэнтральным этапе дабіваюцца вучні, якія рыхтуюцца да алімпіяд з вялікай ахвотай і зацятасцю. Шкада толькі, што меншае значэнне поспехаў, якіх дабіваюцца нашыя вучні ў алімпіядах, у рэйтынгу „Жэчпасполітай" і „Перспектываў", дзе цяпер найбольш балаў збіраюць школы за вынікі з матуральных экзаменаў, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

## Закутак гаючых траў

Саюз пенсіянераў у Нараўцы пад кіраўніцтвам Ядвігі Карпюк кожнае лета ладзіць экскурсіі па Беласточчыне.

14 чэрвеня сорак пенсіянераў з Нараўкі і акалічных вёсак наведалі батанічны сад, што за вёскай Карыціны ў Гродзіскай гміне Сямятыцкага павета. Тут вялікая раслінная калекцыя, больш за семсот гатункаў розных араматных раслін. На пятнаццаці гектарах можна пабачыць самыя рэдкія гатункі флоры, сярод якіх жэньшэнь, маньчжурская аралія, арнікі, урочнік (dziewięćsił). У мясцовай краме экскурсанты набывалі сумесі гаючых траў ад розных хвароб і таксама даведаліся, як рабіць праўдзівыя настойкі.

Увесь гэты прыватны агарод атулены лесам, што стварае прыродныя ўмовы для росту раслін.

Ёсць там і месцы для адпачынку. Можна пераначаваць у гасцініцы, смачна падсілкавацца. Нараўчанскія пенсіянеры елі каўбаскі пры вогнішчы ды спявалі пад гукі акардэона Пятра Скепкі. Экскурсія была павучальная і цікавая.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Варта быць добрым

У Комплексе школ у Кляшчэлях у 2011/2012 навучальным годзе праводзілася акцыя „Варта быць добрым”, у рамках якой аб’яўлены быў конкурс. У справе рэалізацыі акцыі 1 лютага 2012 г. кіраўніцтва Комплексу школ падпісала дамову з яе арганізатарам — Таварыствам бацькоў у карысць дапамогі школам „Прыязна школа”. Пасля азнаямлення з правіламі конкурсу заявы падалі шаснаццаць вучняў. Паміж удзельнікамі конкурсу пачалося заўзятае саперніцтва. Спаборніцтвы вяліся ў трох катэгорыях: актыўнасць у адносінах да іншага чалавека або жывёлы — „я і бліжні”; ангажаванасць у адносінах да групы, супольнасці ў асяроддзі класа, школы, мястэчка — „я і грамадскасць”; глабальныя дзеянні ў карысць правоў чалавека і аховы асяроддзя — „я і свет”. Мэта акцыі — прапагандаванне сярод дзяцей і моладзі добрых учынкаў і паводзін у дачыненні да сваіх аднагодкаў, пажылых людзей, жывёл, класа, насельніцтва і навакольнага асяроддзя, прэміраванне прасацыяльных паводзін і валанцёрства. Вучаніца II класа Пачатковай школы Марыя Маркевіч прыдбала спонсара, які фінансава (100 зл.) успамог акцыю. Удзельнікі конкурсу знаёмілі клас са сваімі дзеяннямі і ступенню рэалізацыі запланаваных задач. Аднакласнікі ў тайным галасаванні выбіралі фіналіста, які, на іх думку, найлепш выканаў планаваныя дзеянні. У коле фіналістаў апынуліся Шыман Пароўскі з I класа, Марыя Маркевіч з II кл., Мартына Амельяновіч з IV кл. і Наталля Леанюк з VI кл. На жаль, не хапіла прадстаўнікаў апошніх класаў, якія б праявілі ахвоту здзяйсняць добрыя ўчынкі. Аб’яўленне вынікаў конкурсу і лёсаванне асноўнай узнагароды — ровара — адбыліся на школьнай пераклічцы 19 чэрвеня.



Наталля Леанюк з узнагародай; побач дырэктар Славамір Трашчотка і бурмістр Ірэна Негярэвіч.

Мерапрыемства пачалося ў 11:50. У святліцы сабраліся вучні ўсіх класаў. Гасцей, а былі імі бурмістр Ірэна Негярэвіч і ўчастковы Ежы Рыдаль, прывітаў дырэктар школы Славамір Трашчотка. У прамове дырэктар напомніў гісторыю конкурсу, аб’явіў фіналістаў, затым папрасіў старшыню вучнёўскага Самаўрада Еву Барону да ўдзельніцтва ў жараб’ёўцы. У выніку лёсавання ровар „Крос” атрымала вучаніца VI класа Наталля Леанюк. З узнагародай лаўрэатку павіншавалі дырэктар школы, бурмістр ды шматлікія сяброўкі. Пасля ўчастковы Ежы Рыдаль уручыў вучням пасведчанні на права кіравання роварам і мапедам. З правіламі дарожнага руху школьнікі знаёміліся ў час навучальнага года. Да экзамену на права кіраваць роварам прыступіла чатырнаццаць вучняў, а мапедам — шэсць.

У першым выпадку абавязваў вусны экзамен і чатырнаццаць вучняў здалі яго паспяхова. На права кіраваць мапедам патрабаваўся дадаткова пісьмовы экзамен. Тры асобы з ліку шасці не вытрымалі экзамену. Вучняў з атрыманнем пасведчанняў павіншавалі ўчастковы Ежы Рыдаль, бурмістр Ірэна Негярэвіч і дырэктар школы Славамір Трашчотка.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Цікавыя заняткі

Праходзячы каля вясковай святліцы ў Чыжах, 20 чэрвеня, пачуў я ўсярэдзіне дзіцячую гаману, а неўзабаве высыпалася адтуль такая ж гаманлівая чародка дзетвары. Спадзяючыся, што нікому цяпер не перашкоджу, заглянуў я ў святліцу. Былі там тры жанчыны, а ў цэнтры глядзельнай залы стаялі прылады для цэласнай апрацоўкі лёну: ад церніцы да красён.

Працаўніца чыжоўскага Гміннага асяродка культуры Іаанна Белавежац паведаміла мне, што акурат адбыліся майстар-класы для дзяцей. У гэты дзень былі спачатку праведзены заняткі для вучняў чацвёртага класа мясцовай школы, а пазней — для другакласнікаў, якія толькі што пакінулі святліцу. Заняткі вялі жанчыны са Збуча: Барбара Ваўрашук і Тамара Раманюк. Сёлетнія



Тамара Раманюк за кроснамі

заняткі ладзіліся ўжо другі раз; першыя такія майстар-класы ладзіліся тры гады таму для дарослых.

Сёлета дзеці былі вельмі зацікаўлены традыцыйнай апрацоўкай лёну, асабліва фінальнай яе стадыяй — тканнем. Дзеці самі выткалі каля паўметра палавіка! А маглі яны яшчэ пабачыць і працэс прадзення нітак, і іх звівання ў моткі. Мяркую, што пабачылі яны і працэс збірання вутка ў чаўнакі, аднак хіба не было збірання асновы, бо высокая зала чыжоўскай святліцы не дазволіла б паставіць там сноўніцы. Затое былі згаданая ўжо церніца, часалка, вітушкі і кругавое матавіла; магчыма, што нечага я і не заўважыў.

Кросны і іншыя прылады жанчыны прывезлі ад сябе, са Збуча. У Чыжах зараз няма памяшкання музейнага характару, толькі ў былой школе ў Кленіках ёсць ізба мясцовай традыцыі. Ну а дзеці, як ужо згадвалася раней, былі вельмі зацікаўлены заняткамі. Магчыма, што гэта было ім нешта зусім новае ў сучасным ім свеце, перапоўненым электроннай, віртуальнай рэчаіснасцю, — патлумачыла мне спадарыня Белавежац.

# Найлепшыя скульптары

18 чэрвеня ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) арганізавалі VI Скульптурны конкурс. Скульптуры выконвалі з гліны, якой поўна ў ляўкоўскім наваколлі. У конкурсе ўдзельнічалі дзеці, моладзь, дарослыя — усіх каля сарака чалавек.

I так, у катэгорыі вучняў I-III класаў пачатковай школы першае раўпапраўнае месца занялі Тамаш Панькоўскі, Караліна Кандрат і Магдаліна Лясота, дугое — Лукаш Клімюк, Агата Саковіч і Юлія Лясота ды трэцяе раўнапраўнае месца — Вераніка Краснапольская і Рыгорка Саковіч.

Сярод удзельнікаў з IV-VI класаў пачатковай школы найлепш сябе адрэкамендавалі Крыстыян Лясота і Магдаліна Бяляўская (першае раўпапраўнае месца), Уршуля Марчук, Патрыцыя Лаўнічук і Клаўдзія Каравай (другое месца) ды Патрыцыя Бядрыцкая, Анна Панькоўская і Мая Радзіванюк (трэцяе месца).

У катэгорыі гімназістаў першынство заваявалі Эва Саковіч, Анжаліна Скепка і Гражына Кайдэвіч, другое раўнапраўнае месца занялі Магдаліна Сухадола, Эва Кунцэвіч і Клаўдзія Лясота, трэцяе — Эмануэля Мірановіч.

У катэгорыі дарослых асоб першае месца занялі Каміля Харкевіч і Барбара Вітомская, другое — Мажэна Барэчка і трэцяе — Наталля Герасімюк.

Конкурс падрыхтавалі Вольга Максімюк (інструктар мастацтва), Галена-Марыёля Рэент (кіраўнічка старалляўкоўскай святліцы) і Анна Стульгіс (дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы).

**(яц)**

У нядзелю, 10 чэрвеня, у Востраве традыцыйна ўжо адзначалася свята прыхадскога хору. Паводле мясцовай традыцыі, яно заўсёды адбываецца на Сёмуху і яшчэ спалучанае яно з вясковым святам.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Дзень царкоўнага хору ў Востраве



Галя Грыбок, Зіна Куклік, Ніна Жамойда, Марыя Шымановіч, Надзя Пракопчык і Валодзя Байгуз — сур'ёзнае ядро хору. Спявае ў ім таксама пару зусім маладых дзяўчат-дэбютантак, якія папалі ў пеўчую кампанію дзякуючы актыўнай дзейнасці рэгентаў — матушкі Людмілы Клімук і ейнай дачкі Магдалены — выпускніцы Бydгашчкай музычнай акадэміі. Амаль усе дарослыя харысты звязаны з працай на гаспадарцы. Так як і іхнія прадзеды цэлае сваё жыццё прысвяцілі роднай зямлі, пакінутай толькі на пару гадоў у перыяд сумнавядомага бежанства 1915 года. Яны засталіся вернымі не толькі матэрыяльнай спадчыне продкаў, але і іхняй культуры. Маняць родную беларускую мову і традыцыі не збіраюцца. Шкадуюць толькі, што на іх пакаленні доўгі ланцуг паслядоўнікаў канчаецца. У іх дзяцей і ўнукаў ужо іншае жыццё, якое зусім не ўпісваецца ў знікаючы мясцовы каларыт.

Найдаўжэй у востраўскай царкве спявае васьмідзесяціаднагадовая Ніна Жамойда. У царкоўны хор чатырнаццацігадовую Ніну запрасіў тагачасны псаломшчык. Ён наведваў усе хаты ў прыходзе, каб вылавіць найбольш таленавітую моладзь. Прозвішча псаломшчыка сцерлася з памяці харысткі, але застаўся вобраз ягонай скрыпкі. Гэта быў адзіны псаломшчык-скрыпач у цэлай вядомай гісторыі гэтага прыхода. Нават царкоўныя спеўкі адбываліся пад акампанемент гэтага інструмента.

— Пазбіраў нас, такіх во, і пры гэтай скрыпцы вучыў, — расказвае спадарыня Ніна.

Псаломшчык выкарыстоўваў толькі традыцыйныя, мясцовыя царкоўныя напевы і песні. Нічога новага не ўводзіў, бо, як падкрэслівае спадарыня Ніна, „мы не былі граматныя, нас не вучылі. Я толькі пайшла ў першы клас рускай і польскай школы, таксама як і мае сяброўкі". Спеўкі праводзіліся ў псаломшчыка, які разам з бацюшкам жыў у старой, драўлянай плябаніі ў стылі беларускага памешчыцкага дома. Былі там два асобныя ўваходы. Псаломшчык карыстаўся дзвярамі ад вуліцы, меў выдзеленую кухню і пакойчык. Астатнюю часць хаты займаў бацюшка. Спадарыня Ніна помніць як у пасляваенны, небяспечны перыяд у час рэпетыцый у прыхадскую хату з бацюшкавай стараны ўвайшлі партызаны. Псаломшчык адразу загадаў усім сядзець ціха і не разыходзіцца, пакуль няпрошаныя госці не адступяць. Спалоханая чародка сачыла за гукамі, якія даходзілі з-за сцяны. Раптам усё прыціхла, дзеці вырваліся дадому, а за імі партызаны, якія прытаіліся за вуглом.

— Мы ісці, а яны за намі. То мы калошы ў рукі ды ў шкарпэтках бяжым. Прыйшла дахаты, лягла, чую хтосьці стукае. Адчынілі тата дзверы, у хату зайшоў ужо знаёмы партызан, паразглядаўся па кутках і схапіў татавы боты. Тата прасілі, каб не забіраў, але той не паслухаўся. Пабачыўшы швейную машыну сказаў: „Во, краўчыха жыве ў хаце". Тата баяліся, што і машыну забярэ, тлумачылі, што яна патрэбная дзяцей абшываць і, на нас указаўшы, дадалі: „Во, дзеці спяць". А той: „Якія тут дзеці, гэта ўжо паненкі".

У гэты час астраўляне маліліся ў капліцы на могілках. Вялікая, драўляная царква была спалена немцамі ў Першую сусветную вайну. Са званіцы высокага, шаляванага будынка можна было пабачыць акраіны Беластока. Вярнуўшыся з бежанства, мясцовыя засталі толькі попел. Казалі, што перад выездам у Расію востраўскія хлопцы выкапалі яму на могілках, каб схаваць там дарагія царкоўныя іконы і званы. Хлопцы пагрпадалі на вайне, ні адзін з іх не вярнуўся і царкоўных скарбаў па сёння ніхто не знайшоў. Па старой царкве следу не засталося. Міжваенная санацыйная ўлада не давала дазволу на пабудову новага аб'екта. Цяперашнюю царкву паставілі ўжо пасля апошняй вайны, у пяцідзесятых гадах.

У Востраве запыніўся таксама псаломшчык Коля Бандалоўскі. Ён рабіў спеўкі ў вёсцы, па хатах, найчасцей сходзіліся да бацькоў спадарыні Ніны. Спатыкаліся, у асноўным, перад вялікімі святамі, такімі як Каляды, Вялікдзень, Тройца ці Зельна.

У гісторыю Востраўскага прыхода найлепш упісаўся псаломшчык Ян Мікуць, родам з падкрынскіх Коматаўцаў. З астраўлянамі правёў ён больш за дваццаць гадоў свайго жыцця. Быў ён самавучкай, без ніякай школы, але ноты ўмеў пісаць. Ягоныя рукапісныя кніжкі па сёння знаходзяцца тут у карыстанні. Меў ён таксама нейкі дар празорлівасці, прадказваў каторая маладая харыстка выйдзе замуж, а каторая старой дзеўкай астанецца. Усё здзяйснялася. Маці гэтай няшчаснай дзяўчыны потым мела да яго прэтэнзіі, казала, што зачараваў. Мікуць заснаваў тут таксама вясковы тэатр. Прадстаўленні ладзіліся ў мясцовай школе, якая знаходзілася ў непасрэдным суседстве з царквой. Канкрэтных п'ес жанчыны ўжо не змаглі ўспомніць, вядома толькі, што былі яны на беларускай мове.



Ніна Жамойда

— Цяпер нічога няма, няма каму. У Расіі і сёння так гуляюць, — уключаецца спадарыня Марыя. — Бачыла я па тэлевізары як у вялікае свята, як цяпер, бацюшкі арганізуюць забавы, выстаўкі, тэатры пра святое. Усе гуляюць, нават бацюшкі з дзяцьмі пабяруцца. Мікуць, нябожчык, казаў: „Мяне не будзе, то і нічога не будзе. Будзеце ўспамінаць маю гнілую костачку". Вельмі добрым настаўнікам ён быў, кожнаму дурню ў галаву ўбіў. Так яно і ёсць.

Коратка прад смерцю Ян Мікуць вярнуўся на радзіму, у Коматаўцы, дзе яго і пахавалі. Потым прысылалі сюды толькі семінарыстаў, сапраўдных псаломшчыкаў ужо не было.

Сённяшні востраўскі царкоўны спеў адметны глыбокай духоўнасцю і спакоем. У час багаслужбаў галасы харыстаў гарманічна зліваюцца ў простых напевах, ствараючы адзіную, ціхую малітву. Мабыць, гэтая цішыня аб'яднання найбольш чутная Богам.

Мясцовы царкоўны клімат дацэньвае таксама Надзя Пракопчык, родам з Міхайлаўскага прыхода ў Бельску-Падляшскім. Спеў з'яўляецца найвялікшым сябрам спадарыні Надзі. З песняй працуе і адпачывае. Спевам кантактуецца з напаўдзікай востраўскай прыродай. Яна вельмі кахае царкоўныя багаслужбы. Калі жыла ў Беластоку, у царкву хадзіла кожны дзень. Спадарыня Ніна спявала ў цэрквах Бельска і Беластока, але, як сама кажа, нідзе не сустрэла так добрай, сяброўскай атмасферы як тут у Востраве.

Востраўскае свята царкоўнага хору не абышлося без шчодрага застолля. Традыцыйна ўжо за супольны стол айцец Аляксандр Клімук запрасіў усіх прысутных у гэты дзень у храме. Спецыяльна для пеўчых матушка Людміла заказала торт, які ўрачыста раздзяліў бацюшка. Усім хапіла і вады, і яды. Былі абавязкова і свецкія любімыя песні. Розныя пакаленні, сабраныя за супольным сталом, праспявалі рэпертуар нашых продкаў. На дапамогу малодшым прыйшла матушка Людміла. Яна прынесла свае сшыткі з даўнімі тэкстамі, запісанымі ад сваіх верных, востраўскіх харыстак.

## Не стала энергіі і энтузіязму

Артыкул Ганны Кандрацюк „Бо гэта мастацкі конкурс!" („Ніва" № 16 ад 15.04.2012 г.) мяне і маіх сяброў моцна занепакоіў. У арганізаваным БГКТ конкурсе „Сцэнічнае слова" прынялі ўдзел толькі два ліцэі з Бельска і Гайнаўкі — усяго два дзесяткі выканаўцаў. Трагедыя!

Прыгадваецца мне фінал конкурсу „Роднае слова" ў Нараўцы ў 2005 годзе, у якім змагалася больш за сто дэкламатараў. Мерапрыемства ўдастоілі тады нашы пісьменнікі, у тым ліку Віктар Швед.

Хвалюе нас недастатковая арганізацыйная зацікаўленасць мерапрыемствам з боку БГКТ (у яго сядзібе ў Беластоку дзейнічае яшчэ іншая беларуская арганізацыя — Таварыства беларускай культуры). Па-мойму, абедзве гэтыя арганізацыі вінаватыя ў правале „Сцэнічнага слова". Штатныя працаўнікі, якія за сваю працу атрымліваюць грошы, не пакарысталіся дапамогай вопытных дзеячаў паветовых аддзелаў. Аб іх памятаюць толькі тады, калі трэба правесці чарговы справаздачна-выбарчы з'езд. Не адвялі конкурсу належнай увагі і настаўнікі беларускай мовы. Дырэктары абодвух ліцэяў павінны апошняе здарэнне ўзяць пад лупу.

Мяне і маіх сяброў трывожыць тое, што такое стаўленне да мерапрыемстваў для школьнай моладзі можа давесці да далейшага абмежавання колькасці іх удзельнікаў. А гэта была б непапраўная страта. Адным словам, арганізатарам не стала энергіі і энтузіязму.

**Віктар БУРА**

## Што ў Гайнаўцы?

Зараз у Гайнаўцы перш-наперш перабудоўваюць шматлікія вуліцы. 19 чэрвеня г.г. ішоў я аднаўленай вуліцай Ягайлы (яна ў цэнтры горада). На адным яе баку праклалі шырокі тратуар у сем радоў плітаў ды пабудавалі дзве невялічкія аўтастаянкі. На вуліцы 11 Лістапада перабудову мастaвой і тратуара пачалі ад скрыжавання з вуліцай Баторыя.

— Сёлета, — сказаў бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, — новыя маставыя атрымаюць вуліцы, між іншым, Боцяня (Бусліная), Старая Юдзянка, Каменная, Мазуры, Малінавая, Пазёмкавая (Сунічная), Пруса, Ажэшкі, Войска Польскага і Скосная. Найбольш грошай гарадскія ўлады прызначылі на перабудову вуліц Войска Польскага, Старой Юдзянкі, Пруса, Ажэшкі, Буслінай, Малінавай і Сунічнай — ад 83 тысяч зл. на Малінавую да 283 тыс. зл. на вуліцу Войска Польскага. Будуюць у асноўным за фінансавыя сродкі з гарадской касы.

## Вазоны летніх кветак

Сёлета ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) упершыню паставілі вазоны з летнімі кветкамі на тратуарах пры галоўных вуліцах. Два вазоны стаяць ля ўвахода ў Гмінны асяродак культуры па вуліцы Новай, тры вазоны перад будынкам Галерэі імя Тамары Саланевіч па вуліцы Міцкевіча і шэсць вазонаў на прыпынку аўтобусаў ПКС па вуліцы Гайнаўскай.

Вазоны стаяць ужо пару тыдняў. Пра іх тут належны клопат. А вуліцы ў Нараўцы папрыгажэлі!

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# XXVI СУСТРЭЧЫ „ЗОРКІ”
## — БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА: ТРАДЫЦЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Дзеці з Беластока, Нарвы, Бельска і Нараўкі прыехалі на Сустрэчы „Зоркі” ў Новае Ляўкова. Гэта ўжо XXVI Сустрэчы, у час якіх дзеці вучацца як быць журналістамі. Цягам тыдня мы стварылі тры газеты: „Папля”, „Наша суполка”, „Учора, сёння, заўтра”. У іх апісаны падзеі ў Нараўчанскай гміне, фабрыка керамікі, школа, агратурыстычны пансіянат, Белавежская пушча і Еўра-2012. Мы правялі таксама многа інтэрв’ю з цікавымі людзьмі з беларускага і польскага асяроддзяў. Газеты папоўнены вершамі дзяцей, коміксамі, рэбусамі, адгаданкамі, крыжаванкамі, гумарам і гараскопамі. Хоць Сустрэчы завяршыліся 23 чэрвеня, мы далей будзем сутракацца раз у тыдзень на старонках „Зоркі”, дзе надрукуем самыя займальныя артыкулы і малюнкі. У іх апісаны цудоўны свет прыроды і сардэчнасць людзей Нараўчанскай гміны. Знойдзеце таксама парады на канікулы, адпачынак і здароўе.

*XXVI Сустрэчы Зоркі адбыліся дзякуючы спонсару: Міністэрсту адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ)*



Фота Міхася СЦЕПАНОКА

**Удзельнікі Сустрэч „Зоркі” з Аляксандрам Бандаруком, дырэктарам керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове**



Фота Ганны Кандрацюк

## Смачны заячы шчавух

Удзельнікі XXVI Сустрэч „Зоркі” паехалі на вандроўку ў Грушкі. Там цёпла прынялі нас працаўнікі Надлясніцтва Броўск: спадарыня Уршуля Аляйніцкая і леснікі Яраслаў Стоцкі ды Юры Панькоўскі. Спачатку леснікі паказалі нам усе дрэвы, якія растуць у Белавежскай пушчы. Пасля мы пайшлі ў глыб пушчы і па дарозе знайшлі сляды зуброў, дзікоў і сарнаў. На лясных дарогах раслі ягады, суніцы і заячы *шчавух*, які ўсім нам пасмакаваў і мы яго елі. Еў яго таксама Віця, трохгадовы сын графіка газеты „Ніва” Адама Паўлоўскага. Наш візіт у пушчу лічым сапраўдным урокам прыроды і добрай экскурсіяй.

**Паўліна Ваўранюк**
*(галоўны рэдактар газеты „Папля”, II клас гімназіі ў Нарве)*




Куба Ваўранюк (*рэдакцыя „Наша суполка”, 4 клас КПШ у Нарве*) — узнагарода Зоркі за дызайн

## Жывы лес

**Ішоў я праз лес,**
**убачыў які ён прыгожы.**
**Убачыў вавёрку сярод галінак бярозы,**
**павук хадзіў па сваёй сетцы,**
**кароль пушчы крочыў ганарліва лясной сцяжынкай.**
**Прайшоў я над ручай, а там рыбы хоць аднімай.**
**Бум! Нешта ўпала на маю галаву...**
**Гэта шышка, якая зляцела з высокай сасны.**
**Скінуў яе ветрык?**
**Лес сапраўды прыгожы, жывы!**

Максім Фіёнік, рэдакцыя *„Наша суполка”*,
*чацвёрты клас Комплексу школ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*

# Сустрэчы трымаюцца Белавежскай пушчы!

*Інтэрв'ю з рэдактар „Зоркі" Ганнай Кандрацюк*

Рэдакцыя „Паплі": — *Якая мэта Сустрэч „Зоркі"?*

— Сустрэчы на тое, каб дзеці пісалі ў „Зорку". Мы, дарослыя журналісты і запрошаныя госці, хочам паказаць вам прыгожы бок беларушчыны. Заўсёды стараемся пашыраць веды пра культуру, паказаць жывых творцаў. Хочам таксама, каб вы пасмакавалі радасці ад пісання артыкулаў, малявання коміксаў і працы ў творчай кампаніі.

П: — *Як Вы выбіраеце ўдзельнікаў Сустрэч „Зоркі"?*

— У першую чаргу запрашаю дзяцей, якія самастойна пішуць у „Зорку" і ў якіх назіраецца развіццё. Мы хочам таксама дапамагчы настаўнікам беларускай мовы. Яны самі могуць назначыць дзяцей, якія найбольш у іх заслужылі на ўзнагароду. Часам запрашаем дзяцей з іншых нацыянальных культур, каб паказаць, што ў нас падобныя праблемы. Мы рабілі, напрыклад, газетку супольна з кашубамі.

Ганна Кандрацюк і рэдактаркі газетак: Кінга Бадавец, Аляксандра Варшыцкая, Паўліна Ваўранюк



Фота Улі ШУБЗДЫ

П: — *Што адчуваеце, калі на Радыё Беласток беларускія перадачы вядзе выхаванец Сустрэч Міхась Сцепанюк?*

— Калі яго перадачы сэнсоўныя, вынаходлівыя і дапрацаваныя, тады мне цёпла на сэрцы, я расказваю пра іх іншым. У выпадку Міхася спрацоўвае яшчэ хатняе выхаванне. Гэта хлапец з высокай асабістай культурай. Ён разумее, што атрыманы ад людзей дар трэба звярнуць. Сёння ён дапамагае на Сустрэчах „Зоркі" як журналіст.

П: — *Ці сённяшнія ўдзельнікі адрозніваюцца ад тых, што прыязджалі раней?*

— Калісь дзеці пісалі ў „Зорку", каб падзяліцца навінамі або радасцю з іншымі. Сучасныя дзеці пішуць толькі пад конкурс, каб атрымаць каштоўную ўзнагароду. Калі ў жніўні 1995 года мы арганізавалі першыя Сустрэчы „Зоркі", да нас прыехала больш за трыццаць маладых карэспандэнтаў практычна з цэлай Беласточчыны. Быў такі перыяд, калі ўсю „Зорку" мы запаўнялі допісамі і малюнкамі дзяцей. У бельскай „тройцы" дзейнічаў наш фан-клуб, які меў сваю насценгазету. Нашыя маладыя сябры заснавалі беларускае кабарэ „Куль", з якім ездзілі па школах. З'явіліся таксама беларускія артыкулы ў „Ляве", школьнай газеце, якая выходзіць у Бельскім ліцэі. Сучасны школьнік думае толькі пра сябе самога і пра тое, які ён цудоўны. На шчасце ёсць яшчэ такія дзеці як вы, якія любяць чытаць кніжкі. Каб добра пісаць, каб быць важным журналістам, трэба любіць кніжкі.

П: — *Якія Сустрэчы Вам найбольш запамяталіся?*

— Усе Сустрэчы былі незабыўнымі. Мяне заўсёды здзіўлялі сітуацыі, калі прыходзілі да нас з дапамогай выпадковыя, часам незнаёмыя людзі. Гэта як у беларускай казцы. Люблю вяртацца думкамі да XIV Сустрэч. Тады мы ішлі па Белавежскай пушчы сцяжынамі, па якіх ходзяць толькі звяры. Вандроўку па ахоўнай зоне нам афармілі сябры з Белавежскага нацыянальнага парку. Мы ішлі лесам тры дні, згубілі там свой стрэс і стомленасць. Асцярожна ступалі, каб не наступіць на якога жучка, каб не спалохаць звярыны, не паламаць галінак. У месцах адпачынку мы ладзілі заняткі па фельетоне і спаткаліся з Міхасём Андрасюком, які чытаў свае апавяданні пры святле вогнішча. Пасля гэтага выпуску дзеці пачалі пісаць змястоўныя допісы, арыгінальныя фельетоны. Сёння, калі гляджу на ўсё пасля гэтых семнаццаці гадоў, бачу дзіўную залежнасць: сустрэчы чамусьці трымаюцца блізка Белавежскай пушчы. Зараз мы зноў знаходзімся ў пачатку пушчы і думаю, што наш XXVI выпуск найпрыгажэйш з усіх! Гэта словы пра вашае сяброўства і пра тое, што праца ў рэдакцыі аказалася цікавейшай за Еўра-2012. Я непатрэбна баялася, што нічога не зробім, бо ўсе будуць прыкаваны да тэлевізара!



Фота Ганны Кандрацюк

# Модныя продкі

Ведаем, што мода не стаіць у месцы і што яна праз нейкі час вяртаецца. Так ёсць і з народнымі ўзорамі, якія ў мінулым былі на штодзённай вопратцы людзей, а сёння гэта толькі сімвал нашай беларускай культуры.

Узоры, якія былі на прадметах нашых продкаў, цяпер для нас з'яўляюцца інспірацыяй, перш за ўсё ў модзе. Сёння многа праектантаў і дызайнераў бярэ натхненне з гэтых узораў. Становяцца яны ўпрыгожаннямі, якія робяць прадмет непаўторным, а таксама і модным. Вяртанне да мінулага цяпер „на часе", актуальнае. На жаль, мы самі часта не звяртаем на гэта ўвагі, не дацэньваем прыгожасці сваіх народных узораў. Пра сучасныя плыні ў прамысловым дызайне расказала рэдактар Дыяна Нахіла з часопіса „Biznes meble.pl". Людзі ахвотна купляюць мэблю ці вопратку, на якой народныя ўзоры. Як жывы прыклад паслужыла прэзентацыя калекцыі New folk — meble — Voks, ды калекцыі AZE biznes desing, аўтарства Анны Катовіч-Пушкарэвіч і Артура Пушкарэвіча. Апошнія праектанты жывуць у нашай Чаромсе. Тут хочацца адзначыць, што спадар Артур у гады маладосці іграў у беларускім рок-гурце „Брага".

У галіне вопраткі бліскуча вылучаецца калекцыя Іаланты Фарботка, мінчанкі, якая зараз пражывае ў Любліне. Прадметы з матывамі народных узораў прадаюцца ў модных галерэях і іх не дастанеш у першым любым магазіне. Праз гэты „прэстыж" людзі больш шануюць мінулае. Яны самі шукаюць старой мэблі на гарышчах дзедавых хат, аднаўляюць і ставяць яе ў сваіх сучасных, прыгожых дамах.

**Аляксандра Варшыцкая**
(галоўны рэдактар газеты ***„Наша суполка"***, *III клас гімназіі Комлексу школ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім)*

# Ужо непатрэбная?!

**Калісь чалавек амаль усё рабіў сваімі рукамі. Не было тады машын, якія аблягчылі б працу і зрабілі б жыццё больш лёгкім, прыемным. Цяпер людзі ўжо не хочуць так цяжка працаваць як калісь. Яны таксама адыходзяць ад філасофіі жыцця. Ніхто не памятае ведаў, пераказаных з пакалення ў пакаленне. Мудрасць нашых продкаў, наканаваная стагоддзямі, нікому ўжо непатрэбная. Прылады, якія трымала рука нашых дзядоў, валяюцца на сметніку. Большасць маладых людзей не ведае што гэта плуг або барана. Калі нейкі дзядзька паказвае гэтыя прылады сучасным хлапчукам, яны не глядзяць у той бок. Мараць, каб хутчэй ісці дахаты. Я сама спазнала як калісь цяжка працавалі людзі ў полі, на гаспадарцы. Па сённяшні дзень я дапамагаю бацькам у полі. Мы конікам бaрануем, косім. Дзякуючы працы з бацькамі больш разумею мінулае, думаю пра нашыя беларускія песні і культуру. Я хацела б, каб усе беларусы мелі магчымасць пазнаць сваю мову. Яна прыгожая і непаўторная, а мы так лёгка, безразумна яе губім. А пасля, калі апамятаемся, захочам вярнуцца да свайго, але мовы ўжо не будзе!**

**Кінга Бадавец** *(галоўны рэдактар „Нашай Суполкі", III клас гімназіі Комплексу школ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім)*



Родам з Беласточчыны

# Лёс беларуса Мікалая Белакоза — бацькі Алеся Белакоза

Сяргей ЧЫГРЫН

**Напісаў ліст у вёску Гудзевічы Мастоўскага раёна Алесю Мікалаевічу Белакозу з прапановай, што хачу напісаць пра ягонага бацьку Мікалая Язэпавіча Белакоза. Тым болей, што бацька яго быў родам з Беласточчыны, з вёскі Юраўляны. У лісце задаў шэраг пытанняў Алесю Мікалаевічу, звязаных з жыццём бацькі і ягоным лёсам. Хутка з Гудзевіч ад Алеся Белакоза прыйшоў пакет з адказамі на мае пытанні, з фотаздымкамі, успамінамі пра бацьку. Наогул, Алесь Мікалаевіч ніколі канверт з адным простым пісьмом не адсылае. Ён заўсёды што-небудзь прышле цікавае, новае, каштоўнае. А ў пісьме Алесь Белакоз напісаў: „Дарагі Сяргей, шчыра дзякую, што хочаце ўспомніць і пра майго тату, бо ён быў прадстаўніком бяднейшага сялянства і заставаўся ім пры ўсіх уладах, хоць бальшавікі лічылі тату амерыканцам, ворагам, кулаком. Праўда, тры гектары зямлі і адна карова не давалі падставы называць яго кулаком, але бальшавікоў ён не любіў усё жыццё...”. Алесь Мікалаевіч дазволіў мне карыстацца ўсімі ягонымі дакументамі і ўспамінамі пра бацьку і калі што не зразумела — звяртацца да яго па дапамогу.**

Лёс беларуса Мікалая Белакоза — гэта лёс многіх беларусаў ХХ стагоддзя: няпросты, складаны і цяжкі. Але беларусы не падалі духам: яны жылі, працавалі на зямлі, кармілі свае сем'і.

Мікалай Белакоз нарадзіўся ў 1890 годзе ў сям'і Язэпа Белакоза і Вольгі Прытыцкай у вёсцы Юраўляны каля Крынак на Беласточчыне. „У Яраўлянах, — кажа Алесь Мікалаевіч, — там спрадвеку жылі мае прашчуры. Мова Яраўлянаў мне даражэйшая і прыгажэйшая за мясцовую, дзе я жыву. Я, напрыклад, кажу: дзякуй Богаві, гобруць і іншыя словы, характэрныя для Яраўлянаў. І ў нас ёсць прыстаўное „г”, мы кажам гостры, гарацъ, а не арацъ і г.д. Кажу Яраўляны, а не Юраўляны таму, што ў 1939 годзе там, каля вёскі, бачыў яры. Просты польскі пісар, каб паздзекавацца з селяніна ў XVI стагоддзі даваў сялянам прозвішчы Сярун, Сцака, Пенес і іншыя напрыстойнасці. А чаму б не абразіць усю вёску, хоць юр не мае дачынення да вёскі, але чужынцы навязалі такое гучанне: Юраўляны...”.

Калі бацькі Мікалая Белакоза Язэп і Вольга вярнуліся з бежанства — засеялі ў Юраўлянах ад радасці роднае поле, але ўраджаю першага так і не дачакаліся, хутка паўміралі ад тыфу. Вольга была вельмі прыгожай жанчынай: чарнявая, стройная. Прыгожым і высокім быў і Язэп. Іх сын Мікола Белакоз быў самым старэйшым у сям'і, рос вельмі здольным хлопчыкам. Ён на выдатна скончыў Крынскае гарадское вучылішча, за што атрымаў нават адпаведную грамату і падарунак. Але ў той час далей вучыцца не было магчымасці. Таму дужы, працавіты Мікалай Белакоз вымушаны быў застацца ў хаце ў Юраўлянах, каб араць, касіць, сеяць, малаціць. Зямлі ў бацькоў Мікалая было чатыры дзесяціны. Яе неабходна было падзяліць на чатырох сыноў — Мікалая, Пятра, Гальяша і Івана, а таксама на дачку Алесю. Гальяш загінуў падчас рэвалюцыі ў Расіі. Самы малодшы Іван з польскага войска ў сярэдзіне 1920-х гадоў уцёк у СССР, дзе быў узнагароджаны за тое, што перайшоў мяжу са зброяй у руках. Аднак у Краснаярску, калі вучыўся на трэцім курсе інстытута, яго арыштавалі і расстралялі. Пятрук вывучыўся за краўца, жыў у Беларусі, а пасля выехаў на радзіму жонкі ў Харкаў. Сястра Алеся выйшла замуж за свайго хлопца і нарадзіла чатырох сыноў і дачку. Вось такі лёс братоў Мікалая Белакоза.

У 1910 годзе юраўлянскага юнака забіраюць у войска. Там ён праслужыў чатыры гады. Пачалася Першая сусветная вайна. Ваяваў тры гады ў той самай кавалерыі, у якой служыў, удзельнічаў у Брусілаўскім прарыве. У 1917 годзе трапіў пад кулямётны агонь, яму параніла галаву, руку і правую нагу. Пасля вайны моцна кульгаў. Калі ажаніўся з Волькай Петрашэвіч, якая трохі заікалася, часта жартаваў: „Кульгаваму найбольш хадзіць, а заікліваму найбольш гаварыць”. „Мая мама паходзіла з вёскі Падбараны, якую ў народзе называюць чамусьці Радзібонаўцы, — успамінае Алесь Мікалаевіч Белакоз. — Да Падбаранаў ад Гудзевіч 9 кіламетраў, калі ісці палявымі сцежкамі, а калі па тракце — больш за 14. Пазнаёміліся і пажаніліся бацькі ў бежанстве каля Харкава напачатку 1919 года. А калі вярнуліся з бежанства ў Юраўляны, то на трох братоў і сястру было толькі чатыры гектары зямлі. Гэта вельмі мала...”.



Мікалай Белакоз

З Харкава Мікалай і Волька Белакозы прывезлі тры мільёны керанскіх грошай (грашовыя купюры, якія выпускаліся Часовым урадам у Расіі ў 1917 годзе і Дзяржбанкам РСФСР у 1917-1919 гадах. — С. Ч.). Каб сабраць столькі на дарогу, прадалі ў Харкаве асабістыя цяжэйшыя рэчы, збіралі заробак. „Заўтра сходзім у Крынкі на кірмаш, трэба грошы распускаць, бо яны прападуць”, — сказаў жонцы Мікалай. Раніцай пайшлі на рынак. І Мікалай заўважыў, што керанак людзі не бяруць. Толькі адзін яўрэй прадае за керанкі саганчыкі.

— Колькі хочаце за гэты саганчык? — пытаецца вясковец у яўрэя.

— Тры мільёны керанак, — адказвае яўрэй.

— Пабойцеся Бога, — абурыўся Мікалай, — каб зарабіць тры мільёны, я год працаваў.

— Ну якія гэта грошы, заўтра за гэтыя грошы можа і бульбіны не купіш, — даказваў сваё яўрэй.

— Відаць, праўду кажа чалавек, як я іх сёння нікуды не ўсуну, дык заўтра яны зусім хадзіць не будуць, — вырашыў Мікалай. Ён купіў саганчык і сёе-тое яшчэ ў Крынках і з Волькай вярнуўся дамоў. Па дарозе сустрэлі суседа Петраша.

— Колькі ты, Мікалайку, заплаціў за гэты саганчык? — пацікавіўся сусед.

— Тры мільёны керанак, —цяжка ўздыхнуўшы, сказаў Белакоз.

— Што ж ты нарабіў? — забедаваў Пятраш. — І я маю сем мільёнаў керанак, але плаціць за саганчык тры мільёны не збіраюся.

Усю ноч не спаў Пятраш. Назаўтра рана са сваімі мільёнамі падаўся ў Крынкі. Там ужо ніхто іх не браў. Так яны і засталіся ў суседа.

Мікалай Белакоз быў вельмі веруючым чалавекам. Алесь Мікалаевіч Белакоз успамінае: „Кожную нядзельку ці ў іншае свята ён шчыра маліўся ў царкве, кожны раз перад сном і пасля сну хвілін дваццаць маліўся на каленях. Іншы раз абураўся, што святароў польскія ўлады прымушаюць казаць пропаведзі па-польску, што праваслаўную рэлігію бацюшка ў школе выкладае па-польску, што дзяцей у школе караюць бізуном нават за тое, што на перапынку звернецца да сябра па-беларуску, што не дазваляюць беларусам купляць зямлю, не прымаюць на працу на фабрыкі ды заводы, у дзяржаўныя ўстановы. Беларусам у даверасьнёўскай Польшчы дазвалялася толькі працаваць парабкамі, служанкамі, пастухамі ды пастушкамі”. З гэтай нагоды Мікалай Белакоз казаў, што нам, беларусам, дрэнна жывецца таму, што намі кіруюць заўсёды айчымы альбо мачахі — трэба шукаць родных бацькоў.

Пры Польшчы палякі не вельмі хацелі пускаць беларусаў на заробкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, бо там яны маглі зарабіць прыстойныя грошы. Таму беларусы ехалі ў іншыя краіны. Вырашыў паехаць на заробкі ў Бразілію і Мікалай Белакоз са сваім сваяком Філімонам Белакозам. Два месяцы плылі яны ў Бразілію. Па дарозе бачылі, як ляцелі з выраю буслы. Яны ў акіяне сядалі на карабель і больш падняцца ў паветра не маглі. Ад лішняга грузу карабель запавольваў ход. Матросы скідалі буслоў у ваду. Усе яны гінулі. „Гэта ж нашы, з Беларусі”, — гараваў Мікалай.

Калі хлопцы прыехалі на чужбіну, то толькі на чацвёрты дзень ім удалося ўладкавацца на працу ў лядоўню. Праца была цяжкая, але плацілі за яе добра. Потым уладкаваліся да аднаго фермера з Латвіі, а пасля распачалі свой уласны бізнес. У Бразіліі Мікалай Белакоз часта марыў, як ён вернецца дахаты з доларамі, навязе гасцінцаў Волечцы і дачанькам Веры і Аленцы, як купіць гектараў сем зямлі ды стане сапраўдным гаспадаром, як гэта зямелька будзе самая ўрадлівая, бо ён прыкладзе рукі да яе, сэрцам адчуе яе патрэбы ды недамаганні, як будзе дапамагаць суседзям і парадамі, і грашыма. Ён ужо бачыў сябе ў ролі настаўніка-апекуна непаўнагадовых хлопчыкаў Бароўскіх, матулю якіх пасадзілі ў турму, што не аддавала секвестратару прыгожага падвойнага дывана, якога выткала разам з ягонай Волечкай. Такіх ды-



Алесь Белакоз

працяг ☞ 10

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Паны і мужыкі

**„To, co świat cały nazywa arystokracją, wymaga u nas pewnej baczności, nawet pieczołowitości. Nie wolno nam zapominać o tym! Nie wolno wprowadzać obcych pierwiastków w nasze zgromadzenie, aby nie wywołać gangreny, paraliżującej nasze poglądy, najświętsze dążenia. (...) Sfera mści się za naruszenie jej praw, nie wolno targać się na jej tradycję uświęconą przez wieki. Kto z nią walczy poniesie porażkę! (...) Pani jest i pozostanie dla arystokracji trędowata!” Гэта словы са славутай меладрамы „Trędowata” Галены Мнішак...**


Магіла Галены Мнішак у Зэмбраве

Арыстакратыя гэта не толькі родавая знаць, гэта, па сутнасці, і знаць у іншых грамадскіх разрэзах. Гэтую думку навеяла мне вандроўка па заходніх акраінах гістарычнага Падляшша, па паўночна-ўсходнім старонні цяперашняга Сакалоўскага павета, што ў Мазавецкім ваяводстве.

Менавіта ў далёкім мінулым, гэта значыць на схіле сярэднявечча, гэтая тэрыторыя характарызавалася тым, што сёння называем шматкультурнасцю, у тым ліку моўнай і рэлігійнай. Даволі добра захаваліся там дакументы каталіцкага храмабудаўніцтва, затое прысутнасць там праваслаўя пакінула нямнога дакументальных слядоў, пра матэрыяльныя нават не згадваючы. І зараз цяжка нават дадумвацца, што там, за Бугам, насупраць Цеханоўца, было калісь нешта з усходняй культурнай тоеснасці.

Зыгмунт Глогер у 1875 годзе пісаў: «W okolicy Drohiczyna, na prawym brzegu Bugu, t.j. w dzisiejszej gub. Grodzieńskiej, przeważał obrządek łaciński, ta więc połać północna ziemi Drohickiej nosiła od dawna nazwę „strony polskiej” lub „lackiej”, gdy przeciwnie południowa (w Królestwie Polskiem) gdzie przeważał obrządek słowiański, nazywana była „stroną ruską”». Славянскі абрад у гэтым выпадку абазначае акурат праваслаўны абрад. Славуты этнограф напісаў гэта 137 гадоў таму, калі яшчэ той абрад быў там жывы. А што ад яго асталося сёння?


Палац Асалінскіх у Стэрдыні


Старая царква ў Сырочыне

З аўтобуса злез я ў Стэрдыні. Гэтая гмінная мясцовасць распаложана на правым беразе рэчкі Бучынкі. А насупраць яе, на левым беразе, знаходзіцца вёска Lebiedzie; калі б там захаваліся толькі мазавецкія ўплывы, як гэта асвятляюць шматлікія самаўрадавыя сайты, дык павінна яна называцца Łabędzie. Ды і сама назва Стэрдыні можа паказваць на нейкі від цвяр-*дыні*, якая б мела *стэрэг*-чы стольны Драгічын з паўночна-заходняга боку; у дакументах Стэрдынь упершыню згадваецца ў 1425 годзе. Аднак не толькі тапаніміка захавала тамашнія сляды з усходняга напрамку...

У чатырох кіламетрах на ўсход ад Стэрдыні знаходзіцца вёска Сырочын. У гэтай вёсцы зараз два касцельныя будынкі: мураваны касцёл, пабудаваны ў 1991-1993 гадах, і недалёка яго старэнькі драўляны храм. Вось што паведамляе пра апошні з іх стэнд побач яго: „Wieś powstała na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego zapewne w 1. poł. XV w. Zasiedlono ją Rusinami, a pierwszym znanym właścicielem wsi był Jan Chądzyński herbu Ciołek. W 1596 r. starosta drohicki Mikołaj Kiszka ufundował we wsi cerkiew prawosławną pw. Znalezienia Krzyża Świętego. W tym samym roku w Brześciu Litewskim dokonano połączenia Cerkwi prawosławnej z Kościołem łacińskim w Rzeczypospolitej Obojga Narodów, w wyniku czego część duchownych i wyznawców prawosławia uznała papieża za głowę Kościoła i przyjęła dogmaty katolickie, zachowując bizantyjski ryt liturgiczny. Tutejsza cerkiew przyjęła postanowienia unii brzeskiej dopiero w 1611 r. W tym samym roku erygowano tu unicką parafię. Nową unicką cerkiew ufundował w 1670 r. kolejny właściciel Seroczyna Zbigniew Ossoliński, starosta drohicki i wojewoda podlaski. Po prawie 180 latach, w 1849 r., z inicjatywy ówczesnych właścicieli dóbr sterdyńskich, Pauliny z Krasińskich i Ludwika Górskich, cerkiew poddano renowacji. Nie wiadomo, czy została ona gruntownie przebudowana czy wzniesiona od nowa. W tym czasie proboszczem seroczyńskim był ks. Nikon Dyakowski, który z własnej inicjatywy zaczął latynizować obrządek: zakupił organy, używał monstrancji i dzwonka, odprawiał różaniec i koronki, a wnętrze cerkwi upodobnił do kościelnego. W 1867 r. został usunięty przez władze carskie za niesubordynację i zesłany w głąb Rosji. Jego następca usunął jedynie organy pozostawiając kościelny wystrój świątyni. W 1875 r. cerkiew zamieniono na prawosławną i trzy lata później jej wnętrze urządzono w duchu prawosławia usuwając poprzednie wyposażenie. Pod koniec 1918 r. cerkiew została przekazana przez siedleckiego biskupa łacińskiego rzymskim katolikom. Urządzono w niej kościół filialny parafii w Sterdyni. W grudniu 1922 r. erygowano tu samodzielną parafię”.

Згаданы Мікалай Кішка так абгрунтаваў пабудову царквы ў Сырочыне: „Wszystkiem poddanym moiem we wsi Seroczynie mieszkaiącem wiary ruskiey wiadomo czynie y rozkazuie tym moiem przywileiem, iżem dał popowi Ruskiemu we wszy Seroczynie przy cerkwy Nalezienia Krzyża Świętego mieszkaiącemu, na imię Jaczkowi Wierzbowicowi y iego potomkom albo successorom, ktorzy po nim przy tey cerkwy mieszkać będą, we wszy Seroczynie dziesięczynę, ktora z dawna była dawana przed tem do cerkwie Łozowskiey, tho iest z kożdey włoki po kopie zboża oziminy, a to z tey przyczyny, iżeście nie dawali teraźnieyszych czasow, any do cerkwie Łazowskiey, any do tey moiey cerkwie Nalezienia Krzyża Ś. ktora iest przez tego pomienionego Jaczka Wierzbowicza za pozwoleniem y przywyleiem moiem zbudowana, w ktorey wy sacramentow świętych według wiary waszey używaycie y Słowa Bożego słuchaycie, gdyż lepiey cerkiew swoią błyską podpomagać, aniżeli dalsze, a do tego inszych panow y wam będzie błyżey w cerkwi swey bywać y wiary swoiey potwierdzenie miecz Panu Bogu służącz”.

Зараз царкоўны будынак у Сырочыне пакінуты на ласку часу. Агульным выглядам вельмі нагадвае ён мне маю стараляўкоўскую царкву. Розніца адно тым, што на ім невялікая сігнатурка, а званіца стаіць асобна, калі ў Ляўкове званіца пабудавана на бабінцы. Дарэчы, сырочынская званіца была ў свой час выканана з вялікім піетэтам, з вытанчанымі дэталямі. І шкада, што, з выгляду, гэтым рарытэтным помнікам даўніны цяпер „апякуецца” толькі час. Сама Сырочынская парафія невялікая, у ёй 340 душ, і мабыць не пад сілу ёй захаванне старога касцёла. Ды і эмацыянальна бліжэйшы цяперашнім вернікам новы касцёл, які яны стаўлялі ўласнай натугай, а той стары ўжо быццам менш свой. Невядома таксама, ці тамашнія казённыя захавальнікі будаўнічай спадчыны маюць старую царкву на сваім уліку...

Пяць кіламетраў на ўсход ад Сырочына чарговая парафія, у Лазоўку. Афіцыйны партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Pierwszą cerkiew prawosławną ufundowali przypuszczalnie bojarzy ruscy osadzeni w pobliskim Łazowie przez wielkiego księcia litewskiego Kazimierza Jagiellończyka (1427-1492). (...) Dokładnej daty erekcji parafii obrządku wschodniego nie znamy. (...). Po unii brzeskiej w 1596 roku cerkiew łazowska pw. św. Piotra i Pawła Apostołów i św. Praksedy stała się unicką. (...) Kolejny właściciel Łazowa, Sterdyni i Zembrowa — generał wojsk koronnych Antoni z Tęczyna hr. Ossoliński (zm. 20 V 1776), starosta sulejowski (1770-1776), ufundował w latach 1771-1772 nową cerkiew unicką. (...) Po Powstaniu Listopadowym, a dokładnie od 1835 roku kościół filialny w Łazówku był zarządzany przez unickiego proboszcza z Seroczyna. W 1868 roku władze carskie internowały i usunęły z Seroczyna ks. Nikona Dyakowskiego (1779-1875), ówczesnego proboszcza (1844-1868), zsyłając go najpierw do Radomia, a następnie do Nowogrodu, gdzie zmarł 26 lipca 1875 roku. Po likwidacji unii, w latach 1874-1875 kościół unicki został zabrany i zamieniony na cerkiew prawosławną. Do Łazówka sprowadzono prawosławnego duchownego oraz prawosławne mniszki z pobliskiego Wirowa”. У 1919 годзе храм пераймаюць і засноўваюць Успенскую парафію каталікі, якія ў 1983-1986 гг. узводзяць новы, мураваны касцёл. Што сталася са старым лазоўскім, багатым канфесійным мінулым, касцёлам, партал не згадвае. Ёсць, аднак, іншы матыў: „Kościół w Łazówku jest miejscem szczególnego kultu Matki Bożej Pocieszenia. Tradycja głosi, że w połowie XVI w. dziedziczka Łazowa, w miejscu stojącego dzisiaj kościoła, zobaczyła Matkę Bożą stojącą na kamieniu, która zapraszała ją do częstej modlitwy na tym miejscu. W nawiązaniu do tego zbudowano wkrótce wokół kamienia świątynię i umieszczono w niej obraz Matki Bożej Pocieszenia, który wnet zasłynął licznymi łaskami. W początkach sierpnia 1913 roku księża prawosławni wyjęli z ołtarza Cudowny Obraz i przewieźli do klasztoru w Wirowie, pozostawiając w kościele jego kopię. Po dwóch latach w 1915 roku prawosławne mniszki, uciekając przed Niemcami, zabrały Cudowny Obraz do Moskwy, gdzie został umieszczony w Aleksiejewskim Monastyrze. Wiadomo, że znajdował się on tam do 1917 roku, ale dalsza jego historia jest nieznana. Po erygowaniu parafii podjęto starania o odnalezienie Cudownego Obrazu w Rosji oraz Rumunii, ale nie przyniosły one żadnego rezultatu. Obecny obraz Matki Bożej został namalowany w 1977 roku”.

У мінулым духоўныя арыстакраты мяжуючых на Падляшшы канфесій намагаліся падпарадкаваць сабе мясцовае шматканфесійнае насельніцтва, магчыма, дзеля цытаванай мэты: „Nie wolno wprowadzać obcych pierwiastków w nasze zgromadzenie, aby nie wywołać gangreny, paraliżującej nasze poglądy, najświętsze dążenia”. Няма ўжо ўніяцкай царкоўкі ў Лазоўку і, здаецца, такі ж лёс чакае і драўляную сведку мясцовага канфесійнага мінулага ў Сырочыне. Магчыма таксама, што тамашнія вернікі, так як кароль Казімір Вялікі, застаўшы свае парафіі драўлянымі, хочуць іх пакінуць адно мураванымі...

Пра Галену Мнішак я згадаў невыпадкова: яна пакоіцца ў сямі кіламетрах ад Стэрдыні, у Зэмбраве. Заглянуў я на тамашнія парафіяльныя могілкі, але ейнай магілкі не знайшоў. Затое шмат там намагільнікаў з „тутэйшымі”, мужыцкімі прозвішчамі. Сама славутая аўтарка пахавана на невялічкіх могілках уласнікаў Зэмбрава, што насупраць тамашняга касцёла, сярод знаці.

8 ☞ працяг

Родам з Беласточчыны

# Лёс беларуса Мікалая Белакоза

ваноў у Юраўлянах ніхто не ўмеў ткаць, а яе Волька навучыла. Мікалай разважаў, што навучыць сыноў Бароўскіх, як трэба гаспадарыць, каб зямля радзіла. Ён ім дапаможа купіць чацвёра парасят, малочную цялушку. Паціху зб'юцца на ногі. Ён аддзячыць Петрушу за ўсё тое добрае, што атрымаў ад разумнага ды разважлівага суседа. Ён дапаможа сястры Алесі, брату Пятру, пашле грошай у Сібір Ясю, які ўцёк у Савецкі Саюз...

Так марыў Мікалай Белакоз пра сваю сям'ю і родныя Юраўляны. Але ў Бразіліі пасля ранення падчас Першай сусветнай вайны адкрылася рана на назе. Пайшоў да хірурга. Той сказаў, што рана адкрылася ад перамены клімату, і яна не загоіцца ад бразільскай гарачыні. І гэта можа прывесці да гангрэны, а, значыць, да смерці.

Праз пэўны час Мікалай Белакоз пачаў збірацца дамоў. Не захацеў заставацца там і Філімон. Разам падлічылі зароблены грошы, купілі падарункі суседзям, сваякам, білеты на карабель, новае адзенне, мяшкі апельсінаў, бананаў, ананасаў, фісташак і паехалі на Радзіму. Вярнуліся дахаты ў разгар лета. Крынкаўскі балагол за невялікую плату прывёз мужчын у Юраўляны. Збеглася ўся вёска. Людзі бачылі, што вярнуліся з Амерыкі Белакозы багатымі людзьмі. Запрасілі за стол суседзяў, пачалі частаваць вяскоўцаў цукеркамі, замежнай садавінай і агароднінай. Гэта быў 1927 год.

Прывёз Мікалай Белакоз дамоў тады 1870 долараў, што на той час у Польшчы склала каля 17 тысяч злотых, альбо 170 кароў.

Працаваць з хворай нагой на зямлі Мікалаю было цяжка. Таму вырашыў ён разам з жонкай адкрыць у Юраўлянах краму. Але крыху раней краму адкрыў Філімон з жонкай, таму мець у вёсцы дзве крамы не было ніякага сэнсу. У 1928 годзе ў Лятках, цяпер гэта вёсачка зліласся з Гудзевічамі на Мастоўшчыне, купілі хатку, пераехалі туды і пачалі гандляваць. Яўрэі-канкурэнты, імкнучыся выкурыць Белакозаў з Ляткоў, падпалілі хлеў, а пасля падклалі самагонку. Хоць былі сведкі, якія бачылі, як падкладвалі Белакозам самагонку, усё ж падкуплены суд прыгаварыў Мікалая Белакоза да 9 месяцаў турэмнага зняволення. Вясковец адбыў тэрмін і вярнуўся дамоў, а потым на сваю матулю вытрабаваў дазвол на гандаль гарэлкай. „У нашай хаце часта пілі сяляне і службоўцы. Я кожны дзень чуў іх размовы пра прыгнёт, і сам пачаў разумець, што беларусы на сваёй роднай зямельцы не могуць гаспадарыць, не маюць права на працу і на вучобу. Вяскоўцы часта пыталіся ў мяне: чаму селянін не любіць есці нелупленую бульбу. Я адказваў: з селяніна ўсе дзяруць скуру, то ён хоць з бульбы абдзірае. Гэта заўсёды выклікала рогат", — успамінае Алесь Мікалаевіч.



Мікалай Белакоз

Падчас Другой сусветнай вайны Мікалай Белакоз з сям'ёй жыў у вёсцы, апрацоўваў тры гектары зямлі, трымаў дзве каровы, некалькі авечак, чацвёра свіней, хатніх птушак. Па начах, акрамя партызан і розных бандытаў, хадзілі ўласаўцы і пераапранутыя немцы. У чэрвені 1943 года да іх пад хату прыйшла вялікая банда. Сярод іх не было ніводнага знаёмага чалавека. Мікалай іх у хату не пусціў. Пачалася страляніна. Ад куль загінуў Мікалай Белакоз. Алесь Белакоз прыгадвае: „Пасля вызвалення доўга адпаведныя органы вялі следства, аднак ніхто дрэннага слова пра бацьку не сказаў. Паўплывала і тое, што сястра мая ў час вайны патаемна па савецкіх падручніках, іншых не было, вучыла дзяцей зусім бясплатна, хоць на кожным кроку рызыкавала жыццём. Сярод іх вучняў трое былі дзецьмі расстраляных фашыстамі бацькоў. А найхутчэй паўплывала тое, што следства вёў прыстойны чалавек. Сястра на допытах казала адкрыта ўсё, што думала, аднак не ўсё запісвалася ў пратаколы, бо інакш цяжка было б растлумачыць, як мы перажылі той час...".

Вось такі быў лёс беларуса Мікалая Белакоза з Юраўлянаў. Сын яго Алесь Мікалаевіч Белакоз усё жыццё аддаў дзецям, вёў шырокую нацыянальна-выхаваўчую работу з вучнямі, збіраў краязнаўчыя матэрыялы, стварыў Літаратурна-краязнаўчы музей у Гудзевічах Мастоўскага раёна, атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.




## www.freekavalenka.org

У кожнага народа ёсць свае героі. Іх наяўнасць нясе ў сабе сэнс для нацыі як нейкай ідэйна аформленай супольнасці. Праўда, для гэтага аўтарытэт герояў мусіць быць неаспрэчваемым нікім з прадстаўнікоў данага народа. Такімі „неаспрэчваемымі" героямі звычайна становяцца тыя, што жылі даўно, якім пастаўлены помнікі, аб іх складзены легенды і напісаны кнігі. Той жа, хто можа быць не менш за геройчных продкаў варты ўзвялічвання, але з'яўляецца нашым сучаснікам, мусіць чакаць усенароднага прызнання і цярпець ад неразумення шмат каго з навакольных. Але насамрэч такое „чаканне" з'яўляецца выпрабаваннем для сапраўднага героя, што і абумовіць яго пераход у разрад „неаспрэчваемых". Адным з такіх герояў для беларусаў мае ўсе шанцы стаць віцеблянін Сяргей Каваленка, які церпіць ад лукашэнкаўскага рэжыму з-за сваёй непрыхаванай вернасці нацыянальнаму бел-чырвона-беламу сцягу.

Сёння Сяргей Каваленка, які ўзімку 2011 года ўзняў на навагодняй ёлцы сцяг, знаходзіцца ў магілёўскай выпраўленчай калоніі № 19. Ён неаднаразова абвяшчаў галадоўкі ў знак нязгоды з прысудам, які насамрэч з'яўляецца выключна палітычна матываваным, бо наўрад ці яго б увогуле пасадзілі, калі б ён павесіў на той ёлцы прыдуманае сённяшнім беларускім правіцелем чырвона-зялёнае палотнішча.

Нягледзячы на тое, што Каваленка змагаецца за права беларусаў карыстацца нацыянальнай сімволікай, нейкіх шматтысячных акцый пратэсту ў яго падтрымку не бачна і не чутна. Большасць беларускага насельніцтва ўвогуле не ведае пра яго геройчную барацьбу. Але гэта не значыць, што ён забыты. Яго помняць і ведаюць як у Беларусі, так і за яе межамі, прыкладам чаго з'яўляецца сайт, які нядаўна з'явіўся ў інтэрнэце па ініцыятыве еўрадэпутата ад Польшчы Марка Мігальскага.

Месяцца сайт па адрасе **www.freekavalenka.org** і мае назву „Свабоду для Сяргея Каваленкі!". Сайт даволі просты ў афармленні — ён змяшчае ўсяго толькі пяць рубрык, выйсці на якія знаходзіцца ўверсе пад выяўленнем навагодняй ёлкі з бел-чырвона-белым сцягам і турэмных крат.

Першымі ў пераліку рубрык ідуць „Навіны". Там змяшчаюцца ўсе паведамленні, звязаныя з Сяргеем Каваленкам і барацьбой за яго свабоду. Праўда, перад азнаямленнем з імі варта больш падрабязна даведацца ўласна пра Сяргея і яго ўчынкі. Для гэтага трэба зайсці на старонку „Аб Каваленцы". Адтуль нам стане вядома, што гэты геройчны чалавек 37 гадоў ад роду, бацька двух дзяцей, па адукацыі інжынер-праграміст.

Больш яскрава пра Сяргея Каваленку распавядае яго жонка Алёна ў сваёй петыцыі да беларускіх улад, што месціцца на аднайменнай старонцы. Петыцыя заклікае ўсіх людзей добрай волі падаць голас у абарону яе мужа і пад патрабаваннем яго вызвалення. Дакумент падаецца на трох мовах — рускай, польскай і англійскай.

Усе астатнія старонкі сайта маюць чатыры моўныя версіі. Да вышэйазначаных дадаецца беларуская. Таму з думкамі людзей з розных краін, якіх патурбаваў лёс змагара за беларускія сімвалы, можа азнаёміцца добрая частка жывучага цяпер на планеце шматмоўнага насельніцтва.

Калі ж нехта хоча выказаць уласную думку наконт справы Сяргея, то гэта можа зрабіць праз рубрыку „Кантакт", даслаўшы электронны ліст адміністратару альбо ўладальніку сайта.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

БЕЛАРУСІ

*Скарбы*

### Паэма „Новая зямля"

У пераліку беларускай літаратурнай класікі паэма Якуба Коласа „Новая зямля" займае асаблівае месца. Нездарма яе часцяком называюць энцыклапедыяй сялянскага жыцця. Для многіх пакаленняў беларусаў свая зямля стагоддзямі была знакам незалежнасці, заможнасці, увогуле сімвалам жыцця. Свая зямля-карміцелька дазваляла выжыць у складаных гістарычных калізіях, перажыць навалы і нягоды. Беларусы — не ваяўнічая нацыя. Яны, змучаныя чужымі войнамі, у канцы XIX стагоддзя марылі толькі пра сваю зямлю як астравок свайго маленькага шчасця. Па сутнасці імкненне да сваёй зямлі — прыхаваная прага вольнасці.

Глыбока сімвалічна, што задума „Новай зямлі" ўзнікла ў паэта ў час, калі ён сядзеў у мінскім астрозе. Там жа былі напісаны і першыя яе раздзелы. Відаць, у час зняволення творца ўспамінае і ўспрымае ўсё больш абвострана і пранікнёна. Пісалася паэма з 1911 па 1923 год — ажно дванаццаць гадоў. Паэт рупліва працаваў над кожным радком, дапісваў, папраўляў. У восьмым томе апошняга выдання збору твораў класіка ўсе гэтыя варыянты пададзены. Фактычна кожны раздзел паэмы можна разглядаць і як асобны твор. „Новая зямля" на рэдкасць аўтабіяграфічны твор. Колас практычна не мяняў прозвішчаў пратапіпаў і не хаваў, што гэта фактычна частка рэальнага жыцця, мастацкае адлюстраванне рэчаіснасці яго дзяцінства. Таму даюцца такія дакладныя апісанні асобных мясцовасцей, дэталёва выведзены персанажы і іх характары. Але фактычна дзядзька Якуб ішоў у сваім творы ад асабістага і прыватнага да агульнанацыянальнага. У савецкі час сутнасць і змест паэмы не раз падвяргаліся вульгарнай крытыцы — Коласа вінавацілі ў дробнабуржуазнай ідэалогіі, апалагетыцы ўласніцкай псіхалогіі. Усё гэта крытыканства пазней схлынула, зляцела, зышло на нішто. Застаўся толькі выдатны лірыка-эпічны твор, перакладзены на мовы суседніх народаў, друкаваны рэкорднымі для нашай беларускай літаратуры накладамі, увасоблены нават у аднайменнай оперы.

У пачатку XXI стагоддзя наўрад ці паэма „Новая зямля" будзе кранальнай для пакалення, якое не вылазіць з інтэрнэту, навакольны свет спазнае пераважна праз фотаздымкі ў „фейсбуку", а адказы на пытанні шукае ў „гуглах". Беларуская нацыя перастала быць пераважна сялянскай, змянілася. А да зямлі ўжо не цягнецца і з-за таго, што страчана пачуццё ўласнасці, бо ўжо даўно — „всё вокруг колхозное, всё вокруг моё". Ужо маё пакаленне куды больш цікавілі футбольныя палі, чым земляробчыя палеткі. Канешне, уводзіць заканадаўча прыватную ўласнасць на зямлю трэба. Але разумнікам з утульных кабінетаў, якія задумваюць рэформы, трэба выразна ўсведамляць, што сёння браць зямлю ва ўласнасць амаль ніхто не хоча, людзі ўцякаюць з вёсак. І пакуль не ўсвядомяць усю згубнасць урбанізаванага жыцця, назад да зямлі не памкнуцца.

„Новая зямля" — твор каштоўны для нас сваёй цэласнасцю, адлюстраваннем рысаў нацыянальнага характару. Чытаецца паэма — нібы бруіцца крынічка. Метафарычнае апісанне прыроды, беларуская дасціпнасць, жыццёвыя праблемы — усё гэта надзвычай трапна, захаплянльна, кранальна. І кожны, хто з дзяцінства рос і гадаваўся ў вёсцы сярод прыроды, чытаючы першыя радкі паэмы, што сталі класікай: „Мой родны кут, як ты мне мілы!..", з настальгіяй успамінае сваю маладосць і час, куды ўжо ніколі не вярнуцца.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Вандроўка поўная прыгод

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Члены таварыства „Стакротка” ў Палічнай, рэалізуючы праграму Польска-Амерыканскага фонду „Раўняць шанцы 2011”, завязалі адносіны з пагранзаставай у Чаромсе. У рамках гэтага супрацоўніцтва таварыства запрашае вайскоўцаў на сустрэчы. Першая імпрэза з удзелам пагранічнікаў „Катанне на санках” адбылася ў лютым г.г., чарговая — праходзіла 18 чэрвеня. Гэта быў велапрабег да пагранперахода Полаўцы — Пяшчатка. Дванаццаць членаў „Стакроткі” ва ўзросце 13-19 гадоў пад наглядам чатырох апекуноў, на чале з Алінай Зазулінскай і Альжбетай Каравай, падаліся з Палічнай у Чаромху. Маршрут праходзіў праз Курашава, Дабрываду, Рэпчычы, Кузаву і чыгуначную станцыю. Не абышлося без прыгоды. Аднаму хлопцу папсаваўся ровар. Вымушаны ён быў пакінуць яго ў Кузаве. У Чаромху дабраўся з сябрам на багажніку. Пазычыўшы ў пасёлку ровар ад сваяка, падаўся ён у далейшае падарожжа ў кампаніі. Прыпынак быў на пагранзаставе. Удзельнікі велапрабегу наведалі службовыя памяшканні, пазнаёміліся з сацыяльна-бытавымі ўмовамі працы пагранічнікаў, паглядзелі абучэнне сабак і „затрыманне злачынца”. Вялікае зацікаўленне выклікалі трэнажорная зала і аўтатранспартны назіральны сродак, якім вайскоўцы карыстаюцца ў час аховы граніцы. Дзякуючы замацаваным на даху аўтамабіля рухомым камерам, можна назіраць наваколле ў радыусе некалькіх кіламетраў. Пасля гадзіннага перапынку веласіпедысты рушылі ў напрамку дзяржаўнай мяжы. На пагранпераходзе паглядзелі будову новага тэрмінала, пазнаёміліся з працай пагранічнамытных служб, затым падаліся ва ўрочышча „Гданьск” — мэту вандроўкі. Праваднік веласіпедыстаў, пагранічнік Лешак Рошчанка расклаў касцёр, забяспечыў удзельнікаў доўгімі арэшнікавымі палкамі і... пачалося пячэнне каўбасак. Варта адзначыць, што „на ставах” даволі прыемна можна правесці час. Цудоўнае наваколле, вадаём (на жаль, забаронена тут купацца), камінак для пячэння каўбасак, другі такі побач пад адкрытым небам, сталы з лаўкамі пад дахам... Застаецца адно раскашавацца, дыхаць свежым, араматным паветрам. Але і тут не абышлося без прыгоды. Некалькіх удзельнікаў паджалілі восы. Аднак не паўлывала гэта на далейшае зацікаўленне навакольным лесам і загараннем над вадою. Апекуны некалькі разоў прапанавалі ўдзельнікам велапрабегу вяртацца дамоў, але моладзь прасіла яшчэ застацца. У паваротнае падарожжа сабраліся пасля пятнаццатай гадзіны. Вярталіся ўсе ў бадзёрым настроі. Не бачыў я на тварах маладых стомы, хаця з Палічнай да пагранперахода ў Полаўцах больш дваццаці кіламетраў у адзін бок. Але для членаў „Стакроткі” гэта не перашкода!

# Пара года

Грыша МАРОЗ

Да кожнай пары года кожны адносіцца па-свойму. Адзін любіць лета, іншы — восень. Хтосьці цешыцца зімою, а некаторыя абажаюць вясну. Вось сустрэў я жанчыну, з якой загаварыўся на сур’ёзную тэму. Яна папросту сказала мне:

— Ведаеш што? Я найбольш люблю зіму.

— Напраўду? — пытаю. — Гэта ж марозная пара года: халадэча дакучае, ногі і рукі мерзнуць. А калі прыйдзе завіруха, тады ўжо зусім хана, носа з хаты не высунеш.

— А вось я такі час абажаю калі кругом бела-бела. Такая пара ніколі не надаела.

— Ну, праўду кажуць: адзін любіць пападдзю, а другі яе дачку. Мне гэта найгоршы час? — кажу жанчыне.

— Не пляці глупстваў, толькі паглядзі на прыгожую зіму. Паглядзі, якія прыгожыя матылькі снегу лётаюць. Я іх лаўлю ў далоні і да шчок прыкладваю, і прыгожыя ім словы шапчу.

— У такім выпадку табе трэба ехаць у такую краіну, дзе круглы год снягі ляжаць і заўсёды пануе зіма.

— Не! Замнога тады было б такога дабра. Даволі нацешуся тут, дзе свае людзі, наша зіма і свой родны кут. А ён зрабіўся мне такі мілы, што пэўна забыць яго не мела б сілы.

Мне ў галаве стала шумець, і ў памяці пустата. Пакіну жанчыну, пачну ад сябе. А мне ж найпрыгажэйшай парой года заўсёды бывае вясна, калі пасля зімы ажывае прырода і на зямлю паяўляецца новае жыццё. Сонейка падымецца вышэй і свае праменьчыкі на зямлю пашле. У закавулках апошні снег растае, падзьме свежы, цёплы вецер. Не адзін тады скажа, што вясна надыходзіць, што ёй пара. А ты, зіма праклятая, уцякай за мора! А калі яшчэ на ўсю ваколіцу гром загрыміць, то ўжо напэўна недалёка вясна. Пачынае навокал усё зелянець, траўка пнецца ўгару, бліжэй сонца, каб больш цяпла захапіць. Каб ад зімы адчапіцца і да лета дажыць. Першыя кветкі працягваюць да сонца свае пупышкі і быццам гавораць: „Мілае сонейка — і нас ты абагрэй, каб хутчэй расцвілі, каб людзям на свеце стала жыць весялей”.

Навокал ужо ўсё ажыло. На гэтым свеце ўсё ёсць і здаўна так было. Толькі аднаго менш: кудысьці пчолкі прапалі. І штогод усё менш іх бывае ў нас. А некаторыя людзі, што многа ведаюць, гавораць, што калі пчолкі загінуць, тады і нас не стане. Я вас не страшу, бо і сам пра гэта ведаю мала. Што ад людзей добрых пачуў гэта і вам напішу.

А вясна ўсё бліжэй, ужо і птушкі вярнуліся з-за мора, у гнёзды свае пасяліліся. Зноў будуць птушанят гадаваць, каб было з кім восенню ў цёплыя краіны ад нас адлятаць. Спеў птушак навокал чуваць, усё пакрылася зеленню, кветкі прыгожа расцвілі, разносячы навокал свой арамат. І сады расцвілі, што прыгожа паглядзець. А калі сена накосяць і падсушаць, тады так яно запахне, што аж у галаве закружыцца. Усё гэта праўда; я вам не ілгу.

Вечарком люблю на лавачцы прысесці, свежым паветрам падыхаць, свежага ёду ў лёгкія набраць, нацешыцца кветкамі і паветрам. Тады і спаць будзе лягчэй. Мо хтосьці спытае: „А адкуль жа ты ёд возьмеш?”. А я яго ў сажалцы маю, у агародзе. Там рыбку гадую, слухаю рогат жаб. І яшчэ раз паўтару: вясну лічу найпрыгажэйжай парой.

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | 1 |
| | | | | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | 8 | 9 | 10 | | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | | | | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

1. дарожка ў парку = 8 _ 9 _ 10 _ 11 _;
2. правіннасць, прычына = 15 _ 26 _ 21 _ 16 _;
3. дрэва ў... туліпане = 18 _ 5 _ 12 _ 14 _;
4. сажалка, копанка = 6 _ 7 _ 19 _ 20 _;
5. парода паляўнічых даўгашэрсных сабак = 27 _ 25 _ 24 _ 4 _ 13 _;
6. бацька = 28 _ 23 _ 3 _ 2 _;
7. горад на паўночным усходзе Румыніі = 1 _ 17 _ 22 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

### Адказ на адгаданку з 22 нумара

Ной, серб, Гобі, шаль, сядло, руль, чай, музыка, Ікар, вежа, баян.

Рашэнне: **Больш бойся дурня чым ільва**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 01.07 — 07.07

**(22.03. — 20.04.)** Спатрэбіцца табе шмат часу на тое, каб выклікаць уражанне на наваколлі (гэты высілак у далейшым прынясе вынікі). Тыдзень добры для атрымання новых ведаў і здабыцця новага вопыту. Прыслухайся ўнутранаму голасу. Панядзелак добры для пошукаў работы. У пятніцу будзеш пераможцам.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш выконваць абавязкі кіраўніка, нават калі ты не займаеш такой пасады. Будуць цябе слухаць і раіцца, а твае просьбы і жаданні будуць здзейснены. Серада — дзень нечаканых, незвычайных вестак. У пятніцу не адкрывай рахункаў у банках, не ўкладвай капіталу і не займайся абменам валюты.

**(22.05. — 22.06.)** Здабудзеш важную інфармацыю, калі будзеш слухаць і назіраць. Праяві дыпламатыю, каб дабіцца здзяйснення старых планаў. Маеш цяпер шанц падняцца па службовай лесвіцы, але трэба будзе моцна пастарацца. У сераду пільнуй кашалёк. У пятніцу непрадбачаныя здарэнні могуць давесці да сур’ёзных канфліктаў.

**(23.06. — 23.07.)** Светлая паласа ў тваім жыцці працягваецца. Стануць расці твае даходы. Засяродзься на будучых мэтах і шляхах іх рэалізацыі. Усё залежыць ад тваёй актыўнасці і ініцыятыўнасці. Будзь больш гнуткі і ўмей ісці на кампрамісы. У сераду не стой пад рэкламамі, банерамі, дрэвамі, вісячымі канструкцыямі. У чацвер можаш апынуцца ў цэнтры падзей. У суботу не прапусці важнай справы.

**(24.07. — 23.08.)** Калі ў цябе няма транспартнага сродка, пара аб ім падумаць. У панядзелак назбіраецца мноства неадкладных спраў, з якімі ў адзін дзень не справішся. У пятніцу магчымае дасягненне вялікага поспеху ў розных прафесійных аперацыях. Суботняя раніца пачнецца з незвычайных падзей.

**(24.08. — 23.09.)** Чакаюць цябе безупынныя тэлефонныя званкі, нечаканыя госці і выпадковыя сустрэчы. Пастарайся хораша правесці час. У выпадку спрэчкі ты першы працягні руку. У панядзелак не купляй нажоў і відэльцаў. Калі ў аўторак на нос табе сядзе муха, гэтая прыкмета абяцае табе атрыманне спадчыны або выйгрыш у азартнай ігры. Пятніца ўдалая для бізнесу і гандлю. У суботу табе ўдасца ўсё, за што толькі возьмешся.

**(24.09. — 23.10.)** Супакой свае пабуджанасць і нецярплівасць, бо гатовы страты, асабліва калі маеш дачыненне да вялікіх матэрыяльных сродкаў. Не аддавай сваіх кроўных ашчаднасцей у чужыя рукі. У аўторак чакаюць цябе розныя турботы, раз’езды і сустрэчы. Калі ў чацвер знойдзеш на сваёй дарозе гузік, знаходка абяцае табе павышэнне і новыя задачы.

**(24.10. — 22.11.)** Пачатак тыдня — благі час для калектыўных заняткаў ці супольных мерапрыемстваў, затое спраўна пойдзе ўсё ў плане індывідуальнай творчасці. Пад канец тыдня чакаюць цябе любоўныя сустрэчы. У панядзелак не раскрывай сваіх сакрэтных планаў. У аўторак можа на цябе напасці звер (насі ў кішэні вялікую чорную фасоліну). У пятніцу поўнасцю паддайся захапіўшаму цябе пачуццю. Не адкідвай сваёй удачы ў суботу.

**(23.11. — 22.12.)** Хтосьці будзе залежаць ад тваіх думак і рашэнняў. Не слухай чужых нагавораў і рабі ўсё дзеля сваёй выгоды. Добры час адправіцца ў падарожжа. У панядзелак старайся на спазняцца. У сераду можаш пачаць любую скаладаную справу. Пятніца прынясе вырашэнне многіх праблем.

**(23.12. — 20.01.)** Каб не мець цяжкасцей у дарозе і ўдала вярнуцца дахаты, дзень да далёкага падарожжа пахадзі па пяці розных дарогах і вазьмі з кожнай з іх па каменьчыку. Чатыры з іх пакладзі каля свайго дома па рагах будынка, а пяты кінь перад парогам. У аўторак прыйдзецца табе ўзяць адказнасць за калектыў. У суботу ў тваю галаву могуць прыйсці новыя ідэі наконт змены месца работы.

**(21.01. — 19.02.)** Добры час наведаць нейкія курсы ці семінарыі. Панядзелак: калі сёння абмесці каго-небудзь венікам, то той чалавек застанецца кавалерам ці старой дзеўкай. У сераду не кладзі яек у адзін кошык (гэта можа памагчы пазбегнуць табе ашуканстваў і страт). У чацвер не пачынай ніякіх спраў, не прымай катэгарычных рашэнняў. У пятніцу не дадуць табе выспацца. Субота — цудоўны дзень для пачатку новых праектаў, звязаных з будаўніцтвам ці рамонтам кватэры.

**(20.02. — 21.03.)** У гэтым тыдні адмоўся ад шпацыраў па дзікім парку ці лесе, будзь уважлівым і глядзі пад ногі (укусіць можа цябе змяя). У панядзелак не давай сваёй згоды на ўдзел у нейкай важнай справе — магчымыя памылкі, якія могуць пашкодзіць у адносінах. У аўторак магчыма сур’ёзная размова з кіраўніцтвам (пойдзе табе ў карысць і падмацуе рэпутацыю). У пятніцу паявіцца шанц праявіць сябе. У суботу можа прыйсціся табе заплаціць старыя рахункі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Творчыя пошукі Мікалая Байгуза

У сэрцы Кнышынскай пушчы, роўна ў палове дарогі паміж Крынкамі і Гарадком, знаходзіцца маленькая вёсачка Нетупа. Да нядаўна можна было туды дабрацца толькі спецыяльным усюдыходам, бо нават рэдкія веласіпедысты пхалі свае два колы ў пяску ці гразі за косткі. Слава Богу, што апошнім часам, дзякуючы гаспадарнасці цяперашняй крынскай улады, наступілі тут істотныя перамены. Пасля амаль стагоддзя ажыў даўні галоўны камунікацыйны тракт, які спалучае Крынкі, між іншым, з Гарадком. Пакуль мае ён выгляд грунтовай дарогі і, што вельмі важна, з Крынак выпусцілі першы аўтобус у Нетупу. У гэтай пуставатай мясцовасці бярэ пачатак род Байгузоў, нашчадак якіх, васьмідзесяцітрохгадовы Мікалай Байгуз сёння там пражывае разам з жонкай Верай. Спадар Мікалай — чалавек незвычайны. Вельмі адрозніваецца ён ад большасці мясцовага насельніцтва, між іншым тым, што не любіць тэлевізара, палітыкі і сварак. На гэтым ціхенькім куску зямлі ён стварыў свет цудоўнай і вельмі карыснай гармоніі чалавека, Бога і прыроды. За свае восемдзесят з лішнім гадоў здолеў захаваць моцнае здароўе, маладзёжную фігуру, свабоду рухаў і ветлівы твар з добрым, дзіцячым позіркам. Дзякуючы прыроднай інтэлігентнасці і чыстай веры ў Бога, мабыць, дасціг ён вяршыні жыццёвага шчасця, перарастаючы тым самым усе вялікія філасофскія школы Усходу і Захаду разам узятых. Чыстата і лад пануюць таксама і на гаспадарскім панадворку героя артыкула. Сваімі рукамі разбудаваў ён старую, бацькоўскую хату, паставіў стадолу, хлеў і маленькую дачу ўнукам. У прыхатніх, кветкавых агародчыках скрыліся цікавыя, каменныя барэльефы аўтарства спадара Мікалая. Не ўяўляе ён сабе жыцця без справы, таму што і раз прыдумвае сабе новы занятак.



Мікалай Байгуз з любімым інструментам

Дваццаць гадоў таму назад улюбіўся ў камень. Усё пачалося са старой, праваслаўнай каплічкі, выкінутай на вуліцу новым пакупніком нетупскага двара. Маёнтак, ад якога засталіся толькі фундаменты, знаходзіўся зараз за мостам, у прыгожай даліне. Належаў ён царскаму генералу, які ў ваенных сутычках страціў руку. Бязрукі генерал гаспадарыў таксама у непадалёкім маёнтку Пілатоўшчына. У польскія часы нетупскі двор, невядома ці ад генерала, ці ад польскай дзяржавы, адкупіў Шарамэта. Новы памешчык у 1923 годзе прывёз Міхаілу Хлябічу — дзеду Мікалая Байгуза — вялікі камень і папрасіў перарабіць яго ў каплічку. Дзед замацаваў у валун іконку Божай Маці і завяршыў яго каваным, чыгунным крыжом. Каплічку паставілі на дзядзінцы двара, пад бэзавым кустом. Шарамэта папрасіў вострaўскага бацюшку, каб штотыдзень прыязджаў туды маліцца. Неадкладна далучылася і мясцовае, шматлікае тады, насельніцтва. Калісь у Нетупе жыло многа праваслаўных, але ў пасляваенны час дваццаць сем'яў выехала на Усход. У 1934 годзе разам з прыездам новага ўласніка двара, каланізатара з Польшчы Аляксандра Сланкоўскага, каплічка апынулася ў прыдарожным рове. Спадару Мікалаю сэрца балела глядзець на апаганеную дзедаву, намоленую святыню, таму разам з унукам перавёз яе на свой панадворак. Чыгунны каплічны крыж быў чамусьці зламаны. Спадар Мікалай надумаўся дарабіць пашкоджаную, металічную частку. Выбіўшы крыж з каменя, запыніў на хвіліну работу, каб падацца ў лес па дровы. Калі вярнуўся, пры каплічцы крыжа ўжо не было, прапаў назаўсёды. Па сёння не можа прыдумаць, хто яго забраў. Памятны, абакрадзены камень рашыў перарабіць пановаму. Спецыяльным долатам высек у ім сцэну Раджджаства Хрыстовага, Божую Маці з Ісусам Хрыстом і надпіс „Марыя Матка Готэс", спалучаючы тым самым тры вядомыя яму мовы: беларускую, польскую і нямецкую. Такім чынам у ваколіцы паявілася, мабыць, першая трохмоўная каплічка. Зацікаўленне нямеччынай перадаў Мікалаю Байгузу бацька, які ў пачатку ХХ стагоддзя некалькі гадоў вывучаў яе ў беларускай школе. Бацька пазнаў нямецкую мову раней чым польскую. Дзякуючы знаёмству гэтай мовы яму лягчэй ішла навука польскага алфавіта. Нейкі час ён нават працаваў настаўнікам, між іншым, польскай мовы, за што атрымліваў высокую зарплату. Добрае веданне нямецкай мовы спатрэбілася бацьку Мікалая і ў нямецкім палоне ў час Другой сусветнай вайны, дзякуючы чаму някепска яму там вялося.

Менавіта бацьку і маці — Стэфаніі і Аляксандру Байгузам — Мікалай прысвяціў свой другі каменны барэльеф. Побач з выявамі святых і кветак апынуўся на ім, між іншым, надпіс „Шонвальд" — месца палону бацькі ў час вайны. Высек там таксама даты бацькавай службы ў польскай арміі маршала Пілсудскага.

На трэцім камені прадставіў мужчыну ў шапцы і пінжачку з кветкай у руцэ. Спадар Мікалай не мог дакладна сказаць кім з'яўляецца таямнічы персанаж, але не заракаўся, калі ўсе кругом гаварылі, што гэта ягоны аўтапартрэт.

Мікалай Байгуз і ягоная жонка Вера незвычайна гасцінныя людзі. Нават нечаканым вандроўцам знойдзецца ў іхняй хаце і чарачка, і шкварачка. Спадарыню Веру турбуе сучасны лад жыцця і людзі, якія вельмі памяняліся, сталі абыякавымі, зайздроснымі, нядобразычлівымі. Затое вельмі ганарыцца сваімі ўнукамі. Адзін жыве ў Варшаве. Пасля заканчэння лясной школы пайшоў ён служыць у ганаровую варту Войска Польскага і прысылае любімай бабусі вялікія, прыгожыя фотаздымкі, між іншым, з прэзідэнтамі Дзмітрыем Мядзведзевым і Баракам Абамам. Такой работы зайздросціць старэйшаму брату малая Карына, узорная вучаніца пачатковай школы ў Шчэціне

Спадарыня Вера хваліць таксама свайго мужа, які „і акно зробіць, і стадолу, і кажух пашые і штаны, і то моцна пашые, бо купленыя ў краме зараз рвуцца, а ён расцягае кожнае шво".

Аказваецца, Мікалай — прафесіянальны кравец, які займаўся гэтай справай больш за сорак гадоў. „За акупацыі ў нас адукацыя не вялася, чуў што дзесь там у Мінску ці Гайнаўцы нямецкія беларускія школы існавалі. Тут можна было толькі канкрэтнаму рамяству навучыцца". Бацька і дзед героя артыкула славіліся ў наваколлі як выдатныя стаяры, але ў хаце захаваліся больш за стогадовыя дзедавыя напарсткі. Швейнай машыны раней у гаспадарстве не было, дзед толькі рукамі шыў. А яшчэ і кручком рабіў, у адзін вечар мог рукавіцы звязаць. Чатырнаццацігадовы Мікалай за намовай бацькі пайшоў у Крынкі да краўца Лабко на трохгадовую навуку. Разам з ім кравецтву вучыліся тады Чэсік Чарнецкі з Малых Азяран і Казік Гайдукевіч з Крынак. Потым у сорак пятым годзе Мікалай папаў на работу на швейную фабрыку ў Дзержанёве, у якой працавала шасцярых яўрэяў. „Яны пачалі распытывацца хто я і адкуль. У мяне была толькі метрыка хрышчэння з праваслаўнай царквы ў Востраве. Яны штосьці ажыўлена зашвяргаталі і зараз паслалі мяне з картай ва ўпраўленне на працоўную рэгістрацыю. Палякаў яны да сябе не прымалі. Там, ад аднаго яўрэя я купіў добрую, ратацыйную швейную машыну. Звычайныя машыны шылі толькі ўзад і ўперад, а гэтай і кругі можна было рабіць". Вярнуўшыся з каштоўным набыткам на бацькаўшчыну, Мікалай апрача гаспадарання далей займаўся кравецтвам. Заказаў было шмат, дзень і ноч ад машыны не адступаў. Электрычнасці тады не было, працаваў пры нафтавай лямпе, абшываючы ўсіх, і мужчын, і жанчын. Прыходзілі туды і з Саннікаў, і з Шацілаў. Адным на Вялікдзень, іншым на вяселлі жакеты, спадніцы, штаны рыхтаваў. Крыху перажывае, што ўжо даўно кравецтва стала непатрэбным і няма магчымасці развівацца ў гэтым напрамку. Ягоная швейная машына служыць цяпер толькі дэкарацыяй. У пакоі спадара Мікалая апрача нямецкай машыны можна пабачыць і калекцыю ўласнаручна зробленых драўляных сундучкоў. Яны аздоблены разнастайнымі выразамі — ёсць хатняя жывёла, людзі, кветкі, а нават верталёт. Сундучкамі вельмі любіць гуляць унучка Карына са Шчэціна.

Нядаўна Мікалай Байгуз пачаў вырабляць драўляныя кларнеты. Сапраўды, гук у іх атрымліваецца надта чысты, толькі няма чым перабіраць, бо ёсць праблема з набыццём маленькіх клавішаў. Па прычыне дакладнасці і мініяцюрнасці некаторых элементаў самому зрабіць іх немагчыма. Мікалай ніколі раней на кларнеце не іграў, але такія справы яму лёгка даюцца. Мабыць і любоў да музыкі таксама перадалася яму ад бацькі, які вельмі любіў іграць на губным гармоніку. Паводле Мікалая, „як чалавек на скрыпцы грае, то за два дні і на гармоніку навучыцца і на ўсякім любым інструменце".

Ягоная прыгода са скрыпкай пачалася яшчэ ў час нямецкай акупацыі. Тады жыў у Крынках Болек Гайдукевіч, выдатны скрыпач, брат Казіка, з якім малады Мікалай адбываў кравецкую практыку. Болек часта са сваёй скрыпкай наведваў іхнага майстра Лабко: „Я яго папрасіў, каб даў пабачыць, папрабаваць пайграць". Скрыпка адразу папала ў душу героя. Неўзабаве з'явіўся ўласны інструмент, прывезены старэйшым братам Мікалая, тады настаўнікам у Элку. „У іграх на скрыпцы, — кажа спадар Мікалай, — самае важнае добра накруціць струны, каб да сябе пасавалі, каб гук зліваўся. Я сам гэтаму навучыўся". Любоў да скрыпкі заініцыявала паўстанне цэлай калекцыі самаробных струнных інструментаў, якую можна паглядзець у пакоі спадара Мікалая. Пераважаюць, вядома, скрыпкі, але ёсць і віяланчэлі, побач вісяць смычкі, зробленыя з валасоў з хваста свайго каня. Скрыпкі, якія выйшлі з-пад рук героя, гучаць спецыфічна і непаўторна. Іх гукавы характар уводзіць слухача у даўні свет вясковага вяселля і хатніх забаваў. Абсалютны слых самароднага музыканта не дазваляе нават на мінімальнае перайначанне аўтэнтычных, мясцовых твораў. Ён таксама добра помніць нямецкія мелодыі, якія гучалі на галоўным крынскім рынку ў час акупацыі. Спадар Мікалай вельмі любіць супольнае ігранне. Калісь музыкальную кампанію састаўлялі яму гармaністы Снарскі з Плянтаў і Семяняка з Азерскіх, разам з якімі ў канцы саракавых гадоў аб'язджаў усе навакольныя забавы. Цяпер найчасцей прыходзіцца канцэртаваць аднаму, недзе на прыродзе, каб нікому не перашкаджаць.

Жыццё працягваецца. Хто ведае якія новыя перспектывы рыхтуе яно для чалавека творчых пошукаў, натхнёнага мастака з ціхенькай, пушчанскай вёскі.

ISSN 0546-1960